# Праект ПРАГРАМЫ БНФ

СПЭЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК ГАЗЭТЫ

Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Травень 1993 г. Кошт 5 рублёў



19 лютага 1989 г., Менск, стадыён "Дынама". Першы незабаронены мітынг БНФ. *Фота Уладзіміра Анцулевіча*

## СТАНОВІШЧА ПЕРАД III ЗЬЕЗДАМ БНФ

Упэўнены, шмат хто зь сяброў Народнага Фронту, успамінаючы пройдзены чатырохгадовы шлях, доўны зьнясільваючых цяжкасьцяў, нават руціны, але адначасна і вялікага духоўнага ўздыму, супрыналежнасьці да свабоды і адраджэньня, шлях шматлікіх падзеяў і пераменаў, шмат хто назаве яго лепшым часам у пражытым сваім жыцьці. Гэта сапраўды так. Толькі не па сваёй волі затрымаўшыся ў дарозе, ведайма, што лепшае – наперадзе.

Няма калі адпачываць, азірацца і разглядаць. Рушым, каб не засьпела нас ноч. Храм рукатворны, сьветлы і прыўкрасны, як наша зямля, ужо відаць на небаспадзе, там, за смугою аблокаў, там – куды мы йдзем, куды навобмацак вяртаецца, вандруе наш род. Засталося няшмат, але цяжкі кавалак – перайсьці праз гадзючае поле. А пройдзе той, хто ўзарэ яго дарэшты і ня спыніцца, не азірнецца.

19 кастрычніка 1988 году мы ступілі на гэтае поле. Тады быў створаны Арганізацыйны Камітэт Беларускага Народнага Фронту. І мы памятаем, як увесь тысячагаловы крывавы цмок зашыпеў, заскрыгатаў, закрычаў сваімі вогненнымі пашчамі. Толькі не азірацца...

30 кастрычніка 1988 году. Дзяды ў Менску. Дзень задушны. Нам рыхтавалі крывавы дзень. Але ніхто не азірнуўся... І захлынуўся цмок. 30 кастрычніка паказала: мы – салідарны народ. І, калі ў нас уваскрэсьне нацыянальная ідэя і сьвядомасьць, мы – непераможныя.

19 лютага 1989 году. Першы масавы мітынг БНФ на перапоўненым стадыёне "Дынама" ў Менску. Першая адкрытая перамога над камуністычнай партакратыяй.

Пэрыяд Аргкамітэту быў, бадай, самы цяжкі. Ён завяршыўся Ўстаноўчым зьездам у Вільні 24-25 чэрвеня 1989 г. Пачалася мэтадычная барацьба з камуністычнай "вандэяй" за дэмакратыю, за праўду пра чарнобыльскае злачынства, за волю і незалежнасьць, за сацыяльную рынкавую эканоміку, за беларускую мову і культуру, за нацыянальную школу і свабоду рэлігіі, за гістарычную справядлівасьць, за годнасьць чалавечую.

30 верасьня 1990 году – акцыя "Чарнобыльскі шлях". У лістападзе – міжнародная Асамблея "Чарнобыльскі шлях" і "Чарнобыльскі трыбунал".

І ўвесь час суды, арышты, перасьлед, паклёпы, правакацыі, напады міліцыі і фізычныя расправы над сябрамі і прыхільнікамі БНФ. Ізноў жа нідзе ніколі ніводзін фронтавец не сарваўся, не паддаўся на правакацыю.

26 лютага 1990 году. Статысячны перадвыбарчы мітынг Народнага Фронту ў Менску. Заняцьце студыі тэлебачаньня. Поўны правал камуністычнай верхавіны і яе прапагандысцкай кампаніі. Тым ня менш на выбарах намэнклятура прадэманстравала, у чым яе сапраўдная сіла: структуры ўлады, дзяржаўная ўласнасьць (адсюль – залежнасць людзей), сродкі масавай інфармацыі, законы, практычна неабмежаваная магчымасць фальсыфікацыяў. БНФ не атрымаў і 10 працэнтаў месцаў у Вярхоўным Савеце. Неўзабаве там утвараецца дэпутацкая фракцыя, а потым і Апазыцыя Народнага Фронту.

7 лістапада 1990 году. Вялікая антыкамуністычная дэманстрацыя і мітынг у Менску, арганізаваныя БНФ. Сымбалічнае вяртаньне "дароў камунізму" пад помнік злачынцу №1.

У гэтым жа годзе Апазыцыя БНФ выкладае ў Вярхоўным Савеце канцэпцыю пераходу да рынку і пабудовы беларускае дзяржавы.

24-25 сакавіка 1991г. II зьезд Нарднага Фронту. Галоўныя задачы: адраджэньне, свабода, незалежнасьць.

19 жніўня 1991г. На раніцы – заява Апазыцыі БНФ аб супраціўленьні камуністычнаму путчу. Увечары – пікеты БНФ з пратэстамі супраць ГКЧП. 20, 21, 22 жніўня – мітынгі БНФ у Менску перад Вярхоўным Саветам.

24 жніўня. Адкрыцьцё нечарговай Сэсіі Вярхоўнага Савету, скліканай з ініцыятывы дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

25 жніўня 1991 году. Незвычайная перамога Апазыцыі Народнага Фронту – канстытуцыйнае замацаваньне незалежнасьці Беларусі, прыпыненьне дзейнасьці КПСС-КПБ.

19 сьнежня 1991 году. Заява Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце пра збор подпісаў за правядзеньне рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету і нечарговых выбарах. Студзень – сакавік 1992г. – збор больш за 442 тысячы подпісаў. Падрыхтоўка да рэфэрэндуму.

З 29 кастрычніка 1992 году – часу незаконнай забароны рэфэрэндуму і ўзурпацыі ўлады камуністычна-намэнклятурнай большасьцю Вярхоўнага Савету – разьвіваецца новы палітычны этап на Беларусі – этап "адкату" назад, а дакладней – этап здрады.

У Вярхоўным Савеце пачаліся напады на асноўныя вартасьці дзяржавы – грамадзянства, нэўтралітэт, суверэнітэт, дзяржаўную мову, герб і сьцяг, адмаўленьне рынкавых рэформаў, прыватнай уласнасьці на зямлю, пэнсіянэрская агітацыя за "сацыялістычны лад", Савецкі Саюз і да т.п. палітычная геранталёгія. Праз нейкі час аднавілі дзейнасьць КПСС-КПБ, паставілі пытаньне аб канфэдэрацыі з Расеяй, аб адмове Беларусі ад нэўтралітэту і заключэньні ваеннага дагавору пра калектыўную бясьпеку з Расеяй, краінамі Каўказу і Сярэдняй Азіі.

Рэзкая стымуляцыя намэнклятурнай здрады выклікана дзьвюма асноўнымі прычынамі: Першая – гэта поўны правал урадавай палітыкі "адміністрацыйнай кансэрвацыі" ў эканоміцы, страх перад блізкім крахам ды імкненьне пазьбегнуць адказнасьці за яго. Адсюль спадзяваньне, што ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы юрыдычна дасьць магчымасьць у выпадку неспрыяльнага для намэнклятуры палітычнага крызысу ўвесьці на Беларусь войскі чужой дзяржавы, як гэта неаднаразова рабілася, прыкладам, у былым Варшаўскім дагаворы.

Другая прычына – псыхалягічная. Пасьля незаконнай і цынічнай забароны рэфэрэндуму намэнклятура з радасьцю ўбачыла, што грамадзтва маўчыць, што яму ўсёроўна. Яна пераканалася, што людзі не зьмяніліся, што яны згодныя падпарадкоўвацца і цярпець, быў бы мінімум пражыць, – уласнасьць, свабода, лёс нацыі іх не цікавіць. Ідэальнае асяродзьдзе для мафіі і нажывы. Урад узбадзёрыўся і пачаў набіраць замежныя крэдыты для праяданьня (няважна, што будзе аддаваць народ); прадаецца маёмасьць, закладаецца эканоміка, раскрада-юцца сыравіна, рэсурсы. А калі прад'яўляць па вэксалях плаціць – не бяда, можна здаць дзяржаву, ліквідаваць незалежнасьць (пры "ўсеагульным адабрэньні народу") і канцы ў ваду, хай Масква плоціць, мільянэры нідзе не прападуць.

Трэба канстатаваць, што за апошнія два гады на Беларусі адбылося намэнклятурнае пераразьмеркаваньне функцыяў улады. На дзяржаўнай уласьнасьці й адміністрацыйнай эканоміцы створаны дэфіцытна-спэкулянцкі рынак і аснова мафіёзнай дзяржавы. Пра гэта адкрыта сьведчыць нават пракуратура: "страты дзяржавы вылічваюцца ўжо мільярдамі рублёў. Шчупальцы мафіёзнага спрута прайшлі на ўсе ўзроўні ўлады... для росту карупцыі, перапампоўваньня грошай зь дзяржаўнага бюджэту ў камэрцыйныя структуры створаныя спрыяльныя ўмовы" (Народная газэта, – 1993, 30.04.).

Для ўтварэньня такой сытуацыі клясычнаму лібэралізму (ці, як яго называюць, капіталізму) спатрэбілася б дзясяткі гадоў, пакуль утварыліся б алігаполіі, кланы і карпарацыі, манапалізавалі б рынак і падграблі б пад сябе дзяржаву. Зьмест такога дзікага капіталізму вядомы – рэзкае расслаеньне грамадзтва на вельмі багатых і вельмі бедных. Мафіёзная ж дзяржава, як адно з магчымых наступстваў такога капіталізму, даводзіць маёмасны падзел грамадзтва да абсурднай мяжы і, як вынік, усталёўвае таталітарны рэжым.

На Беларусі працэс ідзе ў адваротным парадку: ад ідэякратычнай улады камуністычнай партакратыі да адміністрацыйна-эканамічнай, фінансавай улады карумпаванай намэнклятуры; ад таталітарнай да мафіёзна-спэкулянцкай улады.

Паколькі ўлада, эканоміка і дзяржава засталіся ў руках намэнклятуры, працэс пераразьмеркаваньня (лібэралізму навыварат) ідзе вельмі хутка, а таму небясьпечна, бо грамадзтва з прычыны інэрцыі, застаючыся ў палоне прапагандысцкіх стэрэатыпаў і сацыяльных ілюзіяў, не пасьпявае арыентавацца і, часьцей за ўсё, праклінаючы мафію, падтрымлівае мафіёзную палітыку (успомнім лямант пра "коней на пераправе").

Падыходзячы да трэцяга зьезду, Народны Фронт павінен выразна ўсьведамляць, як зьмянілася сытуацыя на Беларусі, якое грамадзтва вырастае з намэнклятурнага камунізму, як змагацца зь несправядлівасьцю. Публічнасьцю, фактамі і напорам можна ўшчэнт разьбіць ідэялёгію, палітычныя структуры, але не каруп-цыю, не нажыву, ня тоўстыя валютныя мяшкі, бо гэта ўжо не ідэялёгія, моцная партыяй, а спосаб жыцьця, ён жа – індывідуалізаваны (кожны мяшок – сіла).

Трэба мець выразную праграму станоўчай пэрспэктывы Беларусі, скіраваную да чалавека, да асобы і яе патрэбаў, да асноўных вартасьцяў нацыі, грамадзтва.

Мафіёзная структура, гэтак жа як і камуністычна-намэнклятурная, імкнецца зьнішчыць палітычных праціўнікаў і ўстанавіць жорсткі кантрольны ці надзвычайны рэжым над грамадзтвам у сваіх інтарэсах. На Беларусі ў дасягненьне такога рэжыму намэнклятура хоча выкарыстаць прэзыдэнцкую ўладу. Камуністы апэрацыю з "прэзыдэнцкай дыктатурай" хацелі правесьці яшчэ ў траўні 1991 г., калі прапанавалі праекты законаў аб прэзыдэнцкай уладзе, аб выбарах прэзыдэнта і ... аб надзвычайным становішчы. Гэта быў варыянт ціхага путчу для Беларусі. Апазыцыя БНФ тады раскусіла гэтыя няхітрыя пляны бюро ЦК і, заручыўшыся падтрымкай іншых дэпутатаў, правяліла камуністычныя задумы.

Цяпер пытаньне прэзыдэнцтва зноў моцна ініцыіруецца парляманцкай большасьцю, асабліва прыўрадавым лобі. Прапануюць спачатку выбраць моцнага прэзыдэнта, які стане кіраўніком выканаўчай улады, а потым правесьці выбары ў парлямант, які будзе працаваць на непастаяннай аснове (як цяперашні Вярхоўны Савет). Зразумела, што ўся ўлада апынецца ў руках прэзыдэнта. Пры гэтым Вярхоўным Савеце і ўрадзе, пры поўнай манаполіі на ўладу й сродкі масавай інфармацыі ўсе перавагі пры выбарах прэзыдэнта будуць у намэнклятуры (незалежна, дарэчы, ад таго, каго выберуць – В.Кебіча, ці С.Шушкевіча).

Ацэньваючы становішча, Народны Фронт ад пачатку заняў выразную і пасьлядоўную адмоўную пазыцыю супраць увядзеньня цяпер прэзыдэнцкай пасады на Беларусі. Але гэта ня значыць, што БНФ увогуле адмоўна ставіцца да магчымасьці ў нас прэзыдэнцкай рэспублікі. Усяму свой час. Цяпер нельга даць намэнклятуры ашукаць народ і ўзьлезьці яму з нагамі на галаву. І так сядзяць на карку.

Вось калі спачатку абраць новы парлямант, – тады іншая справа. Тады Кебіч і намэнклятура, упэўнены, не былі б ужо дырыжорамі-манапалістамі, а выступалі б на роўных падставах. Шанцы на захоп намэнклятурнай мафіяй прэзыдэнцкай пасады зьменшыліся б.

Аднак, улічваючы шматлікасьць і арганізаванасць камуністычнай намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце й неразуменьне палітычнай сутнасьці "прэзыдэнцкага пытаньня" шмат якімі намэнклятурнымі дэпутатамі, ня выключана, што гэтую апэрацыю ажыцьцёвяць. Народны Фронт у такім выпадку павінен, на мой погляд, абавязкова прыняць актыўны ўдзел у выбарах прэзыдэнта. Шанцы ў БНФ, вядома ж, будуць невялікія (уяўляем прапагандысцкую кампанію). Але жыцьцё можа прапанаваць такія нечаканыя для намэнклятуры павароты, што сто разоў праклянуць яны тое моцнае прэзыдэнцтва, асабліва калі з мафіі паляціць пер'е.

Беларускі Народны Фронт падыходзіць да свайго III-га зьезду як структурная палітычная арганізацыя ў асноўным народна-цэнтрысцкага накірунку і адначасна як шырокі народны рух, які яднае ўсіх людзей, што выступаюць супраць камуністычнага таталітарызму, за дэмакратыю, незалежнасьць, рынкавыя эканамічныя рэформы і нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі. Колькасьць прыхільнікаў ідэяў Народнага Фронту вялікая, яна расьце, што добра відаць у час такіх масавых акцыяў, як збор подпісаў за рэфэрэндум. Цяпер ізноў на суд грамадзтва выстаўляецца адна з найкаштоў-нейшых ідэяў БНФ і падстава нашага грамадзкага існаваньня – ідэя нэўтралітэту (і зьвязаная зь ёй ідэя безьядзернасьці Беларусі). Гэтую ідэю Народны Фронт абараніў у Вярхоўным Савеце яшчэ ў 1990 г., а ў 1991 менавіта з ініцыятывы Фронту яна стала нормай Канстытуцыйнага закону. Цяпер намэнклятура фактычна праводзіць рэвізію ўсіх ідэяў БНФ у заканадаўстве дзяржавы. Але мы бачым, што людзям падабаюцца ідэі Фронту. Хіба ж дрэнна жыць у міры і спакоі? Хіба ж дрэнна мець гарантыі стабільнасьці, незалежнасьці і будучыні, не плаціць непатрэбных падаткаў? А ўсё гэта дае нам нэўтралітэт.

Хранічная бяда БНФ – адсутнасьць доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Але ўсё ж хоць павольна, ды канчаецца ўжо эпоха вялікага ашуканства. Беларусь зноў уступае ў паласу цяжкіх выпрабаваньняў, але і Народны Фронт трохі загартаваўся і яго не правядуць на мякіне.

Самае галоўнае цяпер – абараніць дзяржаву і незалежнасьць ад унутранай камуністычнай здрады. Пры гэтым трэба памятаць, што ўсе прынятыя з 29-га кастрычніка 1992 году законы і пастановы Вярхоўнага Савету ўжо ня маюць абавязковай сілы. Гэта рашэньні нелегітымнага органу, што ўтрымлівае ўладу незаконным чынам насуперак волі людзей. Што б яны зараз ні прымалі на шкоду незалежнасьці – усё гэта ня будзе прызнана наступным парляментам, куды, спадзяюся, ужо ня трапяць ненавісьнікі Беларусі, здраднікі і былыя пэрсанальныя пэнсіянэры.

Упэўнены, што добрае зерне, кінутая Фронтам у глебу Бацькаўшчыны і не заўважанае людзьмі, яшчэ прарасьце і ўскалосяцца нібы самоя зь сябе, нібы так і трэба, бо нішто добрае не зьнікае. Дабро вечнае, як наш народ. Хіба ж ня радасна ўсё гэта ведаць.

Зянон Пазьняк

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПРА КРАСАВІЦКІ СОЙМ

25 красавіка адбылося чарговае паседжаньне Сойму БНФ. Сакратар Управы В.Івашкевіч паведаміў пра стварэньне аргкамітэту дзеля падрыхтоўкі III зьезду БНФ і пра ягоную працу. Намесьнік старшыні Фронту Ю.Хадыка выклаў сутнасьць распрацаванага ім праекту Праграмы БНФ. Праект распрацаваны з улікам шматлікіх дакумэнтаў хрысьціянска-дэмакратычных і народных партыяў, улічаныя праграмы АДПБ, БСДГ, эканамічная канцэпцыя Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. У цэнтры Праекту – чалавек, яго асоба. Галоўнымі каштоўнасьцямі зьяўляюцца культурныя традыцыі, свабода, справядлівасьць, салідарнасьць. Сакратар Управы В.Вячорка прапанаваў канцэпцыю Праграмы, паводле якой у пералік найважнейшых каштоўнасьцяў уваходзіць таксама незалежнасьць. На яго думку, трэба адлюстраваць у Праграме нашае стаўленьне да пытаньняў правапарадку, экалёгіі, уласнасьці на зямлю, а таксама ўвесьці разьдзелы "Нацыя, культура, мова" і "Як зьмяніць стан рэчаў".

Старшыня БНФ З.Пазьняк паведаміў, што да чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету рыхтуецца законапраект "Аб палітычных партыях". Існуе небясьпека, што адпаведны закон, які прыме гэты Вярхоўны Савет, пазбавіць Фронт магчымасьці актыўна ўдзельнічаць у выбарах. Каб запабегчы гэтаму, прапануецца стварыць у рамках Фронту партыйную структуру. Мяркуецца, што гэта будзе партыя парляманцкага тыпу, мэта якой – ажыцьцяўленьне Праграмы БНФ "Адраджэньне". Пасьля вострай і працяглай дыскусіі па гэтым пытаньні Сойм прыняў адпаведнае рашэньне.

Сойм таксама прыняў Заяву ў сувязі зь сёмай гадавінай Чарнобыльскай катастрофы.

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПРА ТРАВЕНЬСКІ СОЙМ

8 траўня адбылося чарговае паседжаньне Сойму. У сувязі з маючым адбыцца III зьездам БНФ былі заслуханыя справаздачы сакратароў Управы В.Івашкевіча, З.Жданюка і С.Мурога аб дзейнасьці Управы за мінулыя 2 гады. Са справаздачамі выступілі таксама кіраўнікі Камісіяў, Камітэтаў і рэдактар газэты "Навіны БНФ". Народны дэпутат Ю.Беленькі паведаміў пра вынікі працы рэвізійнай камісіі. На прапанову старшыні БНФ З.Пазьняка Сойм ухваліў дзейнасьць Управы і Камісіяў.

Сакратар Управы В.Вячорка паведаміў, што рыхтуеца адзіны праект Праграмы, які аб'ядноўвае варыянты Ю.Хадыкі і ягоны, многія разьдзелы распрацаваныя спэцыялістамі, у тым ліку народнымі дэпутатамі.

З прапановамі зьменаў у Статуце БНФ выступіла сябра Сойму В.Чуйко.

У сувязі зь меркаваным стварэньнем Партыі БНФ сябра Сойму У.Анцулевіч зрабіў паведамленьне аб праекце Статуту гэтай партыі, галоўнай адметнасьцю якой будзе тое, што яна павінна дзейнічаць паводле клясычных законаў парляманцкіх партыяў: браць удзел у выбарах і дамагацца ажыцьцяўленьня Праграмы БНФ праз сваіх прадстаўнікоў у органах дзяржаўнай улады.

Старшыня Камісіі замежных сувязяў В.Трыгубовіч паведаміла аб працы Аргкамітэту дзеля падрыхтоўкі Ўсебеларускай палітычнай канфэрэнцыі.

Былі зацьверджаныя паўнамоцтвы сп-ні Л.Пецінай як прадстаўніцы Жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Беларусі ў Сойме.

Падрыхтавала **Вера Чуйко**

# РАШЭНЬНЕ
## Сойму БНФ "Адраджэньне"

Беларускі Народны Фронт – грамадзка-палітычны рух, галоўнай задачай якога зьяўляецца ўсталяваньне дэмакратычнага ладу на Беларусі праз фармаваньне органаў улады.

У цяперашніх варунках існуе небясьпека, што ў выніку "заканадаўчай дзейнасьці" намэнклятурнага Вярхоўнага Савету будзе ўведзеная забарона на ўдзел у выбарчай кампаніі для рухаў, што фармальна пазбавіць БНФ магчымасьці актыўна ўдзельнічаць у выбарах.

Каб запабегчы гэтаму, Сойм разгледзеў магчымасьць фармальнага стварэньня ў рамках БНФ партыйнай структуры. Мяркуецца:
- што гэта будзе партыя парляманцкага тыпу;
- што праграмай новастворанай партыі будзе служыць Праграма БНФ, а Статут павінен адпавядаць Статуту БНФ, адлюстроўваючы толькі тыя фармальныя прыкметы партыйнай структуры, якіх патрабуе дзейнае заканадаўства;
- што гэтая партыя распачне сваю дзейнасьць толькі з пачаткам выбарчай кампаніі і толькі пры ўмове, калі грамадзка-палітычным рухам ня будзе дазволена актыўна ўдзельнічаць у выбарах.

Сойм БНФ прапануе падчас III зьезду БНФ правесьці паседжаньне, якое мае на мэце ўтварэньне Партыі Беларускага Народнага Фронту. У сувязі з гэтым Сойм заклікае суполкі, рады і арганізацыі БНФ пры вылучэньні дэлегатаў на III зьезд адначасна надаць выбраным асобам паўнамоцтвы (асобным пратаколам) на прыняцьцё рашэньня аб утварэньні Партыі Беларускага Народнага Фронту.

Менск, 25 красавіка 1993 г.

# ЗАЯВА
## Сойму БНФ "Адраджэньне"
## Да 7-й гадавіны Чарнобыльскай катастрофы

7 гадоў таму адбылася найвялікшая ў гісторыі аварыя на атамным аб'екце. Але сьвет дагэтуль ня ведае, што ад катастрофы асабліва пацярпела Беларусь. У нас пад радыяцыйнае ўзьдзеяньне трапіў амаль кожны. Яно магло быць нашмат меншым, каб нашыя людзі былі папярэджаны пра страшэнную небясьпеку. Аднак Палітбюро ЦК КПСС адразу пасьля Чарнобыльскай аварыі прыняло рашэньне схаваць ад народу сапраўдныя яе памеры. Так званыя кіраўнікі Беларусі ўсімі сіламі намагаліся прыслужыць сваім крамлёўскім гаспадарам. Замест ратаваньня свайго народу яны наладжвалі сьвяточныя дэманстрацыі і спартыўныя гульні, а потым будавалі пацёмкінскія вёскі ў забруджаных раёнах.

Ніводзін з гэтых здраднікаў ня быў аддадзены пад суд. Наадварот, многія атрымалі павышэньне па службе і цяпер упэўнена пачуваюцца ў дзяржаўных структурах Беларусі, карыстаюцца прывілеямі. БНФ рашуча патрабуе суда над усімі, хто нясе адказнасьць за пакуты людзей.

Але беларускі народ дазнаўся праўды пра маштабы бяды і пра ролю тых, хто без ваганьня ахвяраваў яго будучыняй. Вялікая заслуга ў гэтым Беларускага Народнага Фронту, тых вучоных Акадэміі навук Беларусі, што сталі на бок народу, усіх мужных людзей, што ліквідавалі наступствы катастрофы, тых, хто, нягледзячы на шалёнае процідзеяньне ўладаў, падтрымаў сваім удзелам барацьбу БНФ за выратаваньне будучыні нашага народу.

Змаганьне з матэрыяльнымі і духоўнымі наступствамі Чарнобыля было, застаецца і будзе адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасьці БНФ: у яго складзе дзеіць камітэт "Дзеці Чарнобыля", яго актывісты бяруць чынны ўдзел у працы іншых грамадзкіх арганізацыяў, што бескарысьліва спрычыняюцца да дапамогі пацярпелым.

Праблемы Чарнобыля чакаюць вырашэньня, больш таго, яны нарастаюць. Велізарныя сродкі марнуюцца, нічым не паляпшаючы жыцьцё пацярпелых людзей.

Але магчымым вырашэньне балючых праблемаў стане толькі тады, калі ўсе грамадзяне Беларусі, кожны з нас зразумее, што наша будучыня, будучыня нашых дзяцей залежыць ад нас саміх.

На Беларусі пануе тая самая намэнклятура, якая нясе адказнасьць за маштабы наступстваў трагедыі. Яе не хвалююць інтарэсы народу, яна баіцца адказнасьці перад ім. Зараз яна зацягвае Беларусь у ярмо вайсковага саюзу з Расеяй, што прымусіць нашу краіну плаціць вялізарную даніну вайскова-прамысловаму комплексу. Досыць авантураў! Толькі тады, калі мы скажам рашучае "не" камуністычнай намэнклятуры, мы зможам хоць крыху залячыць страшэнныя раны, нанесеныя Чарнобылем.

Менск, 25 красавіка 1993 г.

**С. ✞ П.**

**Управа Сойму БНФ "Адраджэньне", Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце, рэдакцыя газэты "Навіны БНФ" шчыра спачуваюць Валянціну Голубеву ў ягоным вялікім горы – сьмерці БАЦЬКІ.**

# СТАТУТ
**праект**
## Партыі Беларускага Народнага Фронту
## (↵ глядзі Рашэньне Сойму)

Партыя Беларускага Народнага Фронту (Партыя БНФ) – гэта палітычная партыя парляманцкага тыпу, мэтай якой зьяўляецца ажыцьцяўленьне Праграмы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" шляхам удзелу ў фармаваньні органаў дзяржаўнай улады Беларусі.

Партыя БНФ дзейнічае ў межах Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусі, у адпаведнасьці са сваім Статутам і Статутам Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Яе дзейнасьць распаўсюджваецца на ўсю тэрыторыю Беларусі.

### Дзейнасьць Партыі БНФ

Партыя БНФ бярэ ўдзел у фармаваньні органаў дзяржаўнай улады Беларусі:
- папулярызуе ў грамадзтве Праграму, выбарчую плятформу і іншыя дакумэнты БНФ;
- вылучае кандыдатаў у народныя дэпутаты, у тым ліку адзіным партыйным сьпісам, калі гэта адпавядае дзейнаму заканадаўству;
- падтрымлівае іншых кандыдатаў, якія стаяць на дэмакратычнай плятформе;
- вядзе перадвыбарчую агітацыю;
- афармляе групы (фракцыі) сваіх прыхільнікаў у органах дзяржаўнай улады;
- выпрацоўвае наказы дэпутатам, дапамагае ім у дзейнасьці;
- ставіць пытаньне аб адкліканьні дэпутатаў, што не апраўдалі даверу выбаршчыкаў;
- бярэ ўдзел у грамадзкім кантролі за ходам выбарчых кампаніяў;
- распрацоўвае перадвыбарчыя праграмы;
- распрацоўвае законапраекты.

### Удзел у Партыі БНФ

Сябрамі партыі БНФ могуць быць грамадзяне, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, падзяляюць яе Статут і Статут Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і падтрымліваюць Праграму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", незалежна ад нацыянальнасьці, веравызнаньня і сацыяльнага становішча.

Сябрамі Партыі БНФ могуць быць сябры іншых грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, Статут і праграмныя дакумэнты якіх не забараняюць сяброўства ў іншых палітычных партыях.

Сябры Партыі БНФ карыстаюцца правамі:
- браць удзел ва ўсіх мерапрыемствах Партыі БНФ;
- арганізоўваць мерапрыемствы Партыі БНФ у адпаведнасьці зь яе Статутам і Праграмай БНФ;
- абмяркоўваць усе пытаньні дзейнасьці Партыі БНФ, уносіць прапановы;
- выбіраць і быць абранымі ў кіраўнічыя ды іншыя органы Партыі БНФ;
- вольна выходзіць з Партыі БНФ.

Сябры Партыі БНФ нясуць абавязкі:
- быць на ўліку ў суполцы БНФ;
- рэгулярна выплочваць грашовыя складкі ў памеры 1% заробку;
- дамагацца ажыцьцяўленьня праграмных мэтаў БНФ праз дэпутацкую дзейнасьць у органах дзяржаўнай улады.

Партыя БНФ мае фіксаванае сяброўства.

### Структура Партыі БНФ

Структура Партыі БНФ адпавядае структуры БНФ "Адраджэньне" і складаецца з наступных адзінак:
- Суполка Партыі БНФ;
- Тэрытарыяльная Рада Партыі БНФ:
  - Раённая Рада Партыі БНФ;
  - Гарадзкая Рада Партыі БНФ;
  - Рэгіянальная Рада Партыі БНФ;
  - Абласная Рада Партыі БНФ.

**Суполка** Партыі БНФ складае аснову Партыі БНФ. Суполка Партыі БНФ складаецца зь сяброў структурнай адзінкі БНФ, калі ў ёй зарэгістравана ня менш 3-х сяброў Партыі БНФ, і рэгіструецца ў Тэрытарыяльнай Радзе Партыі БНФ або ва Ўправе Сойму Партыі БНФ.

Суполка Партыі БНФ:
- прымае новых сяброў у Партыю БНФ. Прыём ажыцьцяўляецца паводле пісьмовай заявы на агульным сходзе суполкі простай большасьцю галасоў;
- выключае з Партыі БНФ. Сябра Партыі БНФ можа быць выключаны з Партыі, калі ён груба парушае Статут Партыі БНФ ці ганьбіць годнасьць сябра БНФ. Гэтае рашэньне можа быць абскарджана ў вышэйшым выбарным органе Партыі БНФ;
- праводзіць у жыцьцё палажэньні Праграмы БНФ, бярэ ўдзел у агульных мерапрыемствах і акцыях, разьвівае ўласную ініцыятыву;
- абірае скарбніка суполкі, пералічвае ў распараджэньне Ўправы Партыі БНФ ня менш за 10% ад сумы асабістых складак сяброў суполкі ды збораў з падпісных лістоў;
- вылучае прадстаўнікоў у кіраўнічыя ды каардынацыйныя органы БНФ і можа іх адклікаць.

У межах пэўнай мясцовасьці суполкі могуць утвараць раённую, гарадзкую, рэгіянальную Раду Партыі БНФ, вылучыўшы туды ўпаўнаважаных. Раённыя, гарадзкія, рэгіянальныя Рады ствараюць абласную Раду Партыі БНФ, вылучыўшы туды ўпаўнаважаных.

**Тэрытарыяльная (раённая, гарадзкая, рэгіянальная, абласная) Рада Партыі БНФ** складаецца з прадстаўнікоў суполак або ніжэйстаячых тэрытарыяльных Радаў дзеля каардынацыі працы структураў Партыі БНФ, якія дзейнічаюць на адпаведнай тэрыторыі падчас выбарчых кампаніяў. Норма прадстаўніцтва і структура Тэрытарыяльнай Рады вызначаецца Радамі (суполкамі), якія яе ствараюць.

Тэрытарыяльная Рада ажыцьцяўляе ўдзел Партыі БНФ у выбарах у органы дзяржаўнай улады на тэрыторыі адпаведнай адміністрацыйнай адзінкі (адзінак).

Тэрытарыяльная Рада рэгіструецца ва Ўправе Сойму Партыі БНФ.

Тэрытарыяльная Рада можа мець правы юрыдычнай асобы, права на гаспадарчую і выдавецкую дзейнасьць.

### Кіраўнічыя органы Партыі БНФ

Усе кіраўнічыя органы Партыі БНФ зьяўляюцца выбарнымі, дзейнічаюць на прынцыпах поўнай публічнасьці і калегіяльнасьці. Кіраўнічымі органамі Партыі БНФ ёсьць Сойм і Зьезд. Выканаўчым органам Сойму Партыі БНФ ёсьць Управа Сойму Партыі БНФ.

Галоўны кіраўнічы орган Партыі БНФ – Зьезд, які зьбіраецца не радзей аднаго разу на два гады. Дэлегаты Зьезду абіраюцца з прадстаўнікоў суполак і тэрытарыяльных Радаў. У працы Зьезду могуць браць удзел прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў і рухаў, якія падтрымліваюць БНФ. Пры неабходнасьці можа быць скліка081ы нечарговы Зьезд на патрабаваньне Сойму ці адной трэцяй усіх Радаў.

**Зьезд Партыі БНФ:**
- прымае рашэньне пра стварэньне Партыі БНФ і яе ліквідацыю;
- прымае Статут і іншыя дакумэнты Партыі БНФ, робіць у іх дапаўненьні і зьмены;
- абмяркоўвае ды прымае рашэньні па прынцыповых пытаньнях дзейнасьці Партыі БНФ, зацьвярджае асноўныя кірункі яе дзейнасьці;
- прымае рашэньні аб зваротах у Вярхоўны Савет і іншыя дзяржаўныя органы Рэспублікі, робіць заявы па найважнейшых пытаньнях грамадзкага жыцьця;
- фармуе на два гады Сойм, зацьвярджае Старшыню Партыі БНФ ды яго намесьнікаў, Рэвізійную камісію, заслухоўвае іхныя справаздачы, прымае іншыя рашэньні.

Рашэньні Зьезду прымаюцца адкрытым галасаваньнем большасьцю галасоў пры наяўнасьці ня менш чым 2/3 дэлегатаў.

**Сойм Партыі БНФ** працуе паміж Зьездамі Партыі БНФ.

Сойм фармуецца Зьездам. Колькасны склад і прынцыпы фармаваньня Сойму вызначаюцца Зьездам. Сойм Партыі БНФ склікаецца зь ініцыятывы Старшыні Партыі БНФ і пасьля прыняцьця Вярхоўным Саветам Беларусі рашэньня аб выбарах у выпадку, калі будзе заканадаўча абмеркаваны ўдзел Беларускага Народнага Фронту ў выбарах.

Сойм Партыі БНФ:
- склікае Зьезд Партыі БНФ і вызначае парадак прадстаўніцтва на ім;
- удзельнічае ў выбарчых кампаніях, агітуе за выбарчую плятформу БНФ;
- зацьвярджае сьпіс кандыдатаў у дэпутаты (партыйны сьпіс) ад партыі БНФ, агітуе за гэтых кандыдатаў падчас выбараў;
- кантралюе вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты ад Партыі БНФ па акругах, вядзе за іх агітацыю;
- фармуе Ўправу Сойму Партыі БНФ і вызначае рэглямант яе працы, зацьвярджае кіраўнікоў і склад сэкцыяў, рабочых камісіяў і групаў;
- уносіць зьмены ў Статут Партыі БНФ дзеля прывядзеньня яго ў адпаведнасьць заканадаўству.

**Управа Сойму Партыі БНФ** – выканаўчы орган Партыі БНФ.

Управа фармуецца Соймам. Структура Ўправы і прынцыпы яе фармаваньня вызначаюцца Соймам. Пэрыядычнасьць паседжаньняў Управы вызначаецца Соймам.

Управа Сойму Партыі БНФ забясьпечвае практычнае выкананьне рашэньняў Зьезду і Сойму Партыі БНФ, каардынуе дзейнасьць суполак, Радаў, аддзелаў і іншых органаў Партыі БНФ, ладзіць сувязь з грамадзкімі арганізацыямі і дзяржаўнымі органамі Беларусі.

**Сэкцыі і Камісіі Сойму Партыі БНФ** абагульняюць і распрацоўваюць для паседжаньняў Сойму і Зьезду прапановы, праекты рашэньняў.

Рэвізійная Камісія Партыі БНФ абіраецца Зьездам і падсправаздачная толькі Зьезду. Яна кантралюе фінансавую дзейнасьць Партыі БНФ.

### Маёмасьць і фінансы

Партыя БНФ, яе тэрытарыяльныя Рады, суполкі і іншыя арганізацыі валодаюць правам юрыдычнай асобы.

Партыя БНФ мае сваю маёмасць і фінансавыя сродкі, якія захоўваюцца на разьліковых і бягучых банкаўскіх рахунках, у тым ліку ў замежнай валюце.

Грашовыя сродкі Партыі БНФ складаюцца:
- з дабраахвотных ахвяраваньняў і пералічэньняў ад арганізацыяў, прадпрыемстваў, установаў, каапэратываў, прыватных асобаў, у тым ліку на канкрэтныя мэты;
- з грашовых складак сяброў Партыі БНФ;
- з паступленьняў ад выдавецкай і гаспадарчай дзейнасьці;
- з даходаў ад масавых мерапрыемстваў, арганізаваных Партыяй БНФ;
- са сродкаў, зробленых на выставах, талоках, спэктаклях і да г.п., арганізаваных Партыяй БНФ;
- са сродкаў, атрыманых па тастамантах.

Сродкі Партыі БНФ выдаткоўваюцца:
- на выданьне і распаўсюджваньне літаратуры;
- на арэнду памяшканьняў, набыцьцё неабходнай маёмасьці;
- на камандзіровачныя выдаткі;
- на ўтрыманьне штатнага пэрсаналу;
- на арганізацыю мітынгаў і дэманстрацыяў, іншых масавых мерапрыемстваў;
- на арганізацыю лекторыяў і ўнівэрсытэтаў;
- на правядзеньне сацыялягічных дасьледаваньняў;
- на дабрачынную дзейнасьць;
- на вядзеньне выбарчых кампаніяў;
- на іншыя не забароненыя заканадаўствам мэты.

Сойм Партыі БНФ, Управа Сойму Партыі БНФ, арганізацыі Партыі БНФ, якія зьяўляюцца фізычнымі асобамі, маюць пячаткі са сваёй назвай.

### Рашэньне пра спыненьне дзейнасьці Партыі БНФ

Рашэньне пра спыненьне дзейнасьці Партыі БНФ прымае яе Зьезд, калі за гэтае рашэньне прагаласуюць 9/10 яго дэлегатаў.

праект

# ПРАГРАМА
# Беларускага Народнага Фронту «АДРАДЖЭНЬНЕ»

## НОВАЯ ПРАГРАМА БНФ

У параўнаньні з часамі, калі прымаліся ранейшыя праграмныя дакумэнты БНФ, становішча на Беларусі значна, хоць і не прынцыпова, зьмянілася. І хаця галоўны кірунак мэтанакіраванай дзейнасьці БНФ захоўваецца, паўстала неабходнасьць прыняць новую Праграму нашага руху.

Новая Праграма захоўвае пераемнасьць з Праграмаю БНФ "Адраджэньне" і Праграмнаю заявою "Свабода – Незалежнасьць – Адраджэньне", удакладняе і разьвівае палажэньні гэтых дакумантаў, вызначае новыя задачы руху, сьцьвярджае месца БНФ "Адраджэньне" ў сучаснай Беларусі.

Праграма адлюстроўвае пераходны характар цяперашняга гістарычнага пэрыяду. Прапануюцца як неадкладныя захады ў тых ці іншых галінах жыцьця краіны, гэтак і бачаньне блізкай будучыні Беларусі ў выпадку выбраньня дэмакратычнага парляманту і стварэньня ўраду на падставе прынцыпаў БНФ.

## І. БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" – гэта шырокі грамадзка-палітычны рух грамадзянаў, партыяў, арганізацыяў, якія выступаюць за дэмакратычныя ідэалы, за моцную незалежную дзяржаву Беларусь, за сацыяльную рынкавую эканоміку, за нацыянальна-культурнае адраджэньне нашага народу. Фронт гуртуе людзей рознага сацыяльнага стану, прафэсійнай, нацыянальнай, рэлігійнай прыналежнасьці. Фронт яднае і беспартыйных, і сяброў дэмакратычных партыяў. Удзел у Фронце несумяшчальны з прапагандаю камунізму, таталітарнае ідэялёгіі, клясавае, нацыянальнае, расавае, рэлігійнае нецярпімасьці. БНФ – не палітычная партыя дзеля абароны інтарэсаў пэўнай вузкай групы, а рух, які імкнецца адлюстроўваць і бараніць інтарэсы ўсяго беларускага народу, ствараць магчымасьці для народнага палітычнага волевыяўленьня.

Галоўная мэта Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" – вольны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі.

БНФ "Адраджэньне" дзеіць у межах Канстытуцыі Беларусі, выбірае выключна негвалтоўныя, гуманныя мэтады палітычнае дзейнасьці. Гэта ўдзел у выбарах органаў улады і самакіраваньня, масавыя палітычныя акцыі, распрацоўка законапраектаў, праграмаў і канцэпцыяў, культурна-асьветная справа, агітацыя й прапаганда, экалягічныя й дабрачынныя акцыі.

Маральны аўтарытэт у людзей Беларусі Народны Фронт набыў за гады ахвярнай і бескарысьлівай працы яго сяброў і прыхільнікаў дзеля адраджэньня Бацькаўшчыны. Фронт вымагае ад палітыкі і палітыкаў сумленнасьці, непадкупнасьці, маральнае чысьціні.

Фронт не займаецца палітыканствам і не выпрошвае кадравых падачак ва ўлады.

Фронт не займаецца танным папулізмам, не абяцае людзям залатых гор – іх няма дзе ўзяць пасьля стагодзьдзяў каляніяльнага й дзесяцігодзьдзяў бальшавіцкага панаваньня на нашай зямлі. ФРОНТ КАЖА ЛЮДЗЯМ ПРАЎДУ, якой бы цяжкой і нязручнай яна ні была.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", як шырокі дэмакратычны рух, не зьвязаны ідэялягічнымі догмамі, а КІРУЕЦЦА ПАТРАБАВАНЬНЯМІ МАРАЛІ, ДЭМАКРАТЫЯЙ І ПАЧУЦЬЦЁМ ЗДАРОВАГА СЭНСУ.

Фронт – ня "левы" і ня "правы". Фронт – НАРОДНЫ РУХ ПАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРУ.

Беларусь – незалежная дзяржава. Але незалежнасьць, зрухі ў кірунку дэмакратыі, нацыянальнае адраджэньне Беларусі ня сталіся незваротнымі. Таму БНФ мае неабсяжнае поле дзейнасьці.

Грамадзка-палітычная актыўнасьць БНФ скіраваная:

–ДА СВАБОДЫ, што мае на ўвазе стварэньне грамадзянскае супольнасьці, забесьпячэньне правоў чалавека і самавызначэньня народу.

–ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, што мае на ўвазе мацаваньне ды абарону дзяржаўнасьці Беларусі ад любых замахаў.

–ДА АДРАДЖЭНЬНЯ – кансалідацыі беларускае нацыі праз яе нацыянальна-культурнае самаўсьведамленьне й духоўнае адраджэньне на падставе адвечных маральных каштоўнасьцяў.

БНФ у сваёй дзейнасьці імкнецца быць у згодзе з маральнымі прынцыпамі СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ, САЛІДАРНАСЬЦІ і ДАБРА.

❁ ❁ ❁

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" паўстаў у 1988 годзе. Упершыню за шмат гадоў апазыцыйны дэмакратычны і незалежніцкі рух на Беларусі аформіўся арганізацыйна. Упершыню ў падсавецкай Беларусі зьявілася палітычная сіла, якая пераняла традыцыю нацыянальна-вызвольнай і дэмакратычнай барацьбы слаўных папярэднікаў – паўстанцаў супраць Расейскай імпэрыі, адраджэнцаў пачатку нашага стагодзьдзя, стваральнікаў і абаронцаў БНР. Фронт стаў галоўнаю сілаю, якая процістаяла і процістаіць таталітарнай сыстэме. БНФ пераадолеў палітычную манаполію камуністаў на Беларусі, вынес галоўны цяжар барацьбы з рэжымам і савецкай імпэрыяй. БНФ "Адраджэньне" паспрыяў далучэньню мільёнаў суайчыньнікаў да палітычнага жыцьця і да нацыянальна-культурнага адраджэньня. Народны Фронт першы сказаў народу праўду пра злачынную сутнасьць і беспэрспэктыўнасьць камуністычнага рэжыму, пра заняволенасьць беларускага народу ў імпэрыі і пра неабходнасьць адваяваньня незалежнасьці, пра змрочныя наступствы Чарнобыля.

Палітычная дзейнасьць Фронту прывяла да зьдзяйсьненьня многіх пунктаў яго праграмных дакумэнтаў, прынятых на Ўстаноўчым і Другім зьездах БНФ "Адраджэньне".

Згуртаваўшы людзей дэмакратычнае, незалежніцкае, нацыянальна-адраджэнцкае сьвядомасьці, Фронт даў імпульс да стварэньня дэмакратычных партыяў, якія ад пачатку сталі на пазыцыі падтрымкі незалежнасьці і адраджэньня, а значыць, на Беларусі пачала фармавацца нацыянальная грамадзянская супольнасьць.

Здабыцьцё незалежнасьці дало ўнікальную магчымасьць рэалізаваць дэмакратычны, інтэлектуальны, эканамічны патэнцыял Беларусі. Аднак Беларусь пакуль ня выкарыстала гістарычнага шанцу стаць незалежнай і дэмакратычнай краінай з рынкавай эканомікай.

На Беларусі адбылася ня зьмена камуністычнае ўлады на дэмакратычную, а толькі пераразьмеркаваньне яе паміж былой партнамэнклятурай. Таму цяпер немагчымыя ані палітычныя, ані эканамічныя, ані культурныя рэформы. Менавіта намэнклятура, у руках якой сканцэнтраваная ўлада і кантроль за маёмасьцю, ёсьць нашым сапраўдным палітычным апанэнтам.

Усьведамляючы жыцьцёвую неабходнасьць радыкальных зьменаў і ў той жа час выступаючы супраць рэвалюцыйных узрушэньняў, БНФ "Адраджэньне" ў 1992 годзе упершыню ў гісторыі Беларусі і ўсяго посткамуністычнага сьвету ініцыяваў "зьнізу" правядзеньне рэфэрэндуму аб адстаўцы намэнклятурнага, выбранага ў часы СССР Вярхоўнага Савету і новых выбарах паводле дэмакратычнага закону, распрацаванага Фронтам. Але Вярхоўны Савет, ня маючы на тое ані канстытуцыйнага, ані законнага права, адхіліў патрабаваньне больш чым 442 тысячы грамадзянаў Беларусі. Тым самым Вярхоўны Савет страціў легітымнасьць.

Палітычныя працэсы разгортваюцца цяпер на тле практычна неабмежаванага палітычнага панаваньня аджылых свой век савецкіх уладных структураў, шчыльна заселеных учарашнімі намэнклятуршчыкамі. Новастворaныя шматлікія партыі яшчэ ня ў стане стварыць рэальную апазыцыю адроджанай КПБ-КПСС. У такіх варунках відавочная палітычная неабходнасьць захаваньня шырокага народнага руху як глебы, на якой змогуць аб'яднацца дэмакратычныя і патрыятычныя сілы для барацьбы супраць няспынных спробаў пад рознымі маскамі адрадзіць камуністычную імпэрыю.

Фронт розам з усімі дэмакратычнымі сіламі Рэспублікі валодае дастатковым разумовым патэнцыялам і палітычным вопытам, каб узяць на сябе адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны. Ён здольны аб'яднаць намаганьні навукоўцаў і палітыкаў у распрацоўцы шляхоў і ажыцьцяўленьні выхаду Рэспублікі з крызысу. Ён запрашае да супрацоўніцтва ўсіх, хто бачыць, што альтэрнатывы незалежнай і дэмакратычнай Беларусі няма.

## ІІ. ГАЛОЎНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ

### 2.1. Беларуская культурная традыцыя

Мы жывем на сваёй зямлі ўжо больш за паўтары тысячы гадоў. Тут нашыя продкі стварылі сваю першую дзяржаву - Полацкае княства. Тут уключыліся ў сусьветны цывілізацыйны працэс, прынялі хрысьціянскае веравызнаньне. Сфармавалася своеасаблівая непаўторная культура беларускага народу, галоўныя рысы якой маюць быць адроджанымі і стварыць падмурак грамадзянскай супольнасьці ў вольнай і дэмакратычнай Беларусі.

Мы ганарымся тым, што нашыя продкі былі талерантнымі – яны ўмелі паважаць і цаніць іншую думку, іншыя звычаі і лад жыцьця. Але ня трэба думаць, што гэтая памяркоўнасьць была аднабаковая. Прадстаўнікі !ншых народаў, якія жылі на беларускай зямлі, у сваю чаргу шанавалі й ведалі беларускую культуру.

Мы ганарымся тым, што нашыя продкі былі мужнымі ваярамі і гарачымі патрыётамі. На працягу стагодзьдзяў нашая Бацькаўшчына непераадольнай сьцяной стаяла на шляху агрэсіі як з усходу на захад, так і з захаду на ўсход. Яна ніколі не была заваяваная і не плаціла даніны.

Мы ганарымся тым, што для пабытовага грамадзянскага жыцьця нашых продкаў быў уласьцівы глыбокі дэмакратызм. Нашая Бацькаўшчына ніколі ня ведала дэспатычных рэжымаў. З XV ст. найвышэйшым органам улады быў прадстаўнічы Сойм, а з XVI ст. выбарным органам належала й мясцовая ўлада. Нормаю нашага права быў кансэнсус – юрыдычны ідэал, які й сёньня недасяжны для шмат якіх дэмакратыяў сьвету.

Мы памятаем, што ўсё гэта мы згубілі 200 гадоў назад, трапіўшы пад уладу вялізарнай улады маскоўскага цара. Палітыка, погляды на сьвет, гістарычна-культурная сутнасьць гэтай дзяржавы сфарміраваліся як імпэрскія. Нам пакінулі толькі беларускую працавітасьць, дысцыплінаванасьць і любоў да ведаў. Мы памятаем, што нашыя продкі пяць разоў паўставалі за аднаўленьне волі. За гады савецкай улады наш народ перажыў жахлівы генацыд і бязьлітасную палітыку дэнацыяналізацыі.

Але народ выжыў, і ён адродзіць сваю культуру, сваю гістарычную памяць і пакладзе ў падмурак заўтрашняй дзяржаўнасьці.

### 2.2. Маральныя асновы нашай палітыкі

Мы з удзячнасьцю і ўвагаю вывучаем вопыт пабудовы сучаснага дэмакратычнага грамадзтва ў розных краінах сьвету. Адхіляючы крайнія палітычныя кірункі, мы аддаем перавагу цэнтрысцкім плыням, якія імкнуцца адлюстроўваць не прыватныя інтарэсы асобных станаў ці групаў у грамадзтве, а за найвышэйшую сацыяльную каштоўнасьць вызнаюць палітычнае, эканамічнае й маральнае здароўе грамадзтва ў цэлым. Яны разглядаюць грамадзтва як адзіны арганізм, дзе кожная група выконвае сваю непаўторную ролю, а таму заслугоўвае таго, каб яе інтарэсы ўлічваліся й абараняліся дзяржаваю. Тым самым яны не прызнаюць клясавую барацьбу за рухавік гісторыі. Яны будуюць грамадзтва, якое гарманічна спалучае інтарэсы асобы ды інтарэсы соцыюму.

Такою бачыць будучыню Беларусі і Беларускі Народны Фронт.

У падставе дзяржаўнасьці цывілізаваных народаў ляжыць паняцьце дэмакратыі. Дэмакратычнае грамадзтва прынцыпова адрозьніваецца ад грамадзтва таталітарнага. Таталітарызм імкнецца да разьяднаньня людзей, у той час як дэмакратычная палітычная сыстэма грунтуецца на дзейнасьці разнастайных грамадзкіх аб'яднаньняў, існаваньне якіх адпавядае нармальнаму чалавечаму інстынкту сацыяльнасьці. Багацьце формаў гэтых аб'яднаньняў і мэтаў, да якіх яны імкнуцца, адпавядаюць плюралістычнай канцэпцыі. Гэтая канцэпцыя прызнае натуральным іншадумства і права іншадумцаў быць пачутымі.

У палітычным пляне плюралістычная канцэпцыя рэалізуецца ў шматпартыйнай сыстэме. Яна дапускае існаваньне нават партыяў, якія не зьяўляюцца дэмакратычнымі. Аднак дзяржава прымае захады дзеля таго, каб ліквідаваць магчымасьць выкарыстоўваць у барацьбе за палітычную ўладу мэтады падману й прымусу. Палітычны мэханізм павінен дапускаць магчымасьць зваротнай сувязі – пастаяннага дыялёгу з апазыцыяй і непалітычнымі грамадзкімі аб'яднаньнямі.

Найважнейшым вынікам разьвіцьця сучаснай дэмакратыі зьяўляецца ідэя аб падпарадкаванасьці палітычнай дзейнасьці этычным нормам. БНФ не прызнае палітыкі без маралі. Прынцып маральнасьці палітыкі адпавядае беларускай культурнай традыцыі.

З заснаванага на маральнасьці хрысьціянскага сьветапогляду вынікаюць і такія кардынальныя палітычныя прынцыпы, як годнасьць чалавечай асобы, вяршэнства агульнага дабра і здольнасьць грамадзянскай супольнасьці да самаўдасканаленьня.

### 2.3. Годнасьць чалавечай асобы

Чалавек ёсьць галоўная каштоўнасьць. Ад іншых стварэньняў прыроды ён адрозьніваецца разумнасьцю, свабодай, духоўным жыцьцём.

Свабода – кардынальнае паняцьце дэмакратычнага грамадзтва. Чалавек – свабодны. Але як разумная й маральная істота ён разумее, што свабода іншых абмяжоўвае і абумоўлівае яго асабістую свабоду. Таму свабода ў грамадзтве ўключае ў сябе як правы, так і абавязкі. Дзяржава павінна праз стварэньне сыстэмы права забясьпечыць грамадзяніну неабходную сфэру свабоды.

Матар'яльныя ўмовы, у якіх жыве чалавек, не павінны быць перашкодаю для ягонай свабоды. Таму мэтаю палітычнай дзейнасьці зьяўляецца забесьпячэньне матар'яльных умоваў для свабоды. Вольнае раскрыцьцё асобы рэалізуецца на глебе найбольш справядлівага разьмеркаваньня шанцаў і даброт.

Павінны быць роўныя магчымасьці для рэалізацыі кожным чалавекам сваіх здольнасьцяў. Гэта азначае стварэньне роўных умоваў для атрыманьня адукацыі і прафэсійнай падрыхтоўкі. Гэтым нашае разуменьне роўнасьці адрозьніваецца ад разьмеркавальнай роўнасьці ў таталітарным грамадзтве, якое так яскрава прадэманстравала немагчымасьць абсалютнай роўнасьці.

Сфэру асабістай свабоды істотна пашырае прыватная ўласнасьць. Таму дзяржава павінна імкнуцца стварыць як мага больш шырокі пласт уласьнікаў.

Ажыцьцяўленьне ідэалу свабоды патрабуе зьдзяйсьненьня прынцыпу падмяняльнасьці (субсыдыярнасьці). Дзяржава не павінна браць на сябе тое, што па сілах адной асобе ці малой супольнасьці. Так разьвязваецца ініцыятыва і падвышаецца адказнасьць грамадзянаў за свае ўчынкі. Гэты ж прынцып рэгулюе дачыненьні паміж малымі й буйнымі супольнасьцямі, а таксама паміж вольнымі аб'яднаньнямі грамадзянаў і дзяржаўнымі структурамі.

Свабода рэалізуецца праз індывідуальную і калектыўную адказнасьць у практычным жыцьці.

Грамадзянін паклікaны ўсьвядоміць і практыкаваць прынцыпы свабоды ў сям'і, у дачыненьнях з блізкімі, на працоўным месцы і пры арганізацыі адпачынку, а таксама ў маштабах дзяржавы. Яму трэба браць удзел у выбарах і рэфэрэндумах, у дзейнасьці грамадзкіх структураў, прымаць на сябе сваю долю адказнасьці. Ён не павінен адыгрываць ролю падапечнага ці простага атрымальніка дзяржаўных ільготаў. Самаістасьць думак і адказнае супрацоўніцтва з грамадзкімі й дзяржаўнымі ўстановамі ёсьць умова таго, каб ня стаць ізноў ахвяраю таталітарнае сыстэмы.

Валоданьне свабодаю патрабуе ад чалавека гатоўнасьці абараніць яе як ад пагрозаў звонку, так і ўнутры дзяржавы. Свабодныя грамадзяне ня могуць капітуляваць перад ворагамі свабоды.

БНФ заяўляе аб сваёй адданасьці прынцыпу абароназдольнай дэмакратыі.

## 2.4. Вяршэнства агульнага дабра

Чалавек – сацыяльная істота. Толькі ў межах грамадзтва, ва ўзаемадзеяньні з падобнымі сабе можа ён рэалізаваць свае магчымасьці і забясьпечыць свае правы. Таму каштоўнасьці грамадзтва зьяўляюцца ў роўнай ступені вызначальнымі для палітычнай ідэялёгіі БНФ, як правы і годнасьць чалавечага індывідума.

Асабліва важная ідэя вяршэнства агульнага ці грамадзкага дабра. Забясьпячэньне яго ёсьць клопат дзяржавы і кожнага чалавека.

Мы лічым, што стымулам для грамадзкага прагрэсу зьяўляецца ня толькі імкненьне чалавека палепшыць матар'яльныя ўмовы свайго існаваньня, але і патрэба духоўнага ўдасканаленьня.

## 2.5.Справядлівасьць

Аснова сацыяльнай справядлівасьці – гэта прызнаньне роўнасьці ўсіх людзей, павага іх годнасьці і свабоды незалежна ад улады, здольнасьцяў і недахопаў.

Справядлівасьць азначае роўныя правы для ўсіх, і ў тым ліку тых, каму патрабуецца дапамога. Яна дае кожнаму роўны шанц для свабоднага самараскрыцьця, для прыняцьця адказнасьці за сябе і за іншых. Справядлівасьць у рэалізацыі свайго шанцу выключае ўраўнілаўку. Ад індывідуальных здольнасьцяў і намаганьняў павінны залежаць вынікі ажыцьцяўленьня свайго шанца.

Справядлівасьць патрабуе ад дзяржавы захадаў для выроўніваньня стану тых, хто ў процілеглым выпадку апынуўся б у становішчы безнадзейна адсталых. Дапамога павінна быць накіраваная перш за ўсё тым, хто ў абмежаванай ступені здольны аказаць сабе самадапамогу. Да іх ліку адносяцца пэнсіянэры, інваліды і тыя, хто не заняты ў вытворчым працэсе. Грамадзтва ня можа адштурхоўваць няўдачнікаў. Важна кожнаму, нават калі ён сам вінаваты ў сваіх бедах, даць шанц для самарэалізацыі.

## 2.6. Салідарнасьць

У імкненьні падтрымаць блізкага выяўляецца такая істотная рыса ў адносінах паміж асобаю і грамадзтвам, як салідарнасьць. Салідарнасьць зьвязвае людзей паміж сабою і ўтварае аснову культурнай супольнасьці. Хрысьціянскае разуменьне салідарнасьці значна шырэйшае за клясавую салідарнасьць.

Грамадзянская супольнасьць выступае ў падтрымку асобы, якая прэтэндуе на атрыманьне дапамогі. У гэтым праяўляецца права індывідума на салідарнасьць. Але асоба выступае таксама за грамадзтва ў цэлым. У гэтым праяўляецца яе салідарная адказнасьць.

Наша ідэя адказнасьці далёкая ад бязьмежнага індывідуалізму і ад калектывісцкага патранімізму. БНФ заяўляе пра сваю адданасьць ідэі ўзаемнай адказнасьці асобы і грамадзтва.

На гэтым прынцыпе салідарнасьці павінна грунтавацца ўся сыстэма сацыяльнага забяспячэньня. Сыстэма сацыяльнай падтрымкі – не ананімная каса, зь якой можна без канца чэрпаць. Яна павінна забясьпечваць права на сацыяльную абарону, але кожны сваёю працаю спрыяе таму, каб супольнасьць магла клапаціцца пра кожнага паасобку.

Дзяржава павінна заахвочваць ініцыятыву грамадзянаў ствараць сыстэмы самадапамогі. Каб эфэктыўна бараніць агульныя інтарэсы, сацыяльныя групы абапіраюцца на салідарнасьць сваіх сяброў. Групавая салідарнасьць асабліва прыдатная там, дзе паасобку людзі ня ў стане забясьпечыць свае інтарэсы.

Але салідарнасьць – гэта ня толькі садружнасьць тых, каго яднаюць агульныя інтарэсы. Яна дапамагае пераадолець межы супрацьлеглых інтарэсаў, заахвочвае моцных аказваць падтрымку слабым пры агульным узаемадзеяньні ў імя агульнага дабра.

Прынцып салідарнасьці дзейсны толькі тады, калі ў духу спагадлівасьці і ўзаемаразуменьня будуюцца дачыненьні паміж няроўнацэннымі партнэрамі, якія адрозьніваюцца ўладаю, эканамічнымі магчымасьцямі, інтарэсамі. Салідарнасьць неабходная там, дзе рэалізацыя згоды зьвязана зь цяжкасьцямі. Адсюль відавочная яе сувязь з узроўнем агульнай і палітычнай культуры, патрыятызмам і нацыянальнай самасьвядомасьцю.

Наш ідэал – унівэрсальная салідарнасьць сацыяльных групаў і клясаў унутры грамадзтва, салідарнасьць нацыянальных супольнасьцяў і дзяржаваў як у рэгіянальным, так і сусьветным маштабе. У адрозьненьне ад эгаізму, які гістарычна знайшоў сваё гранічнае выяўленьне ў крайнім лібэралізьме (марксавым "капіталізьме"), і ад нянавісьці, якая была стрыжнем сацыяльнай сыстэмы марксізму-ленінізму.

Такім чынам, мы за ўсталяваньне згодных, паважлівых, цярпімых адносінаў, за шматбаковае супрацоўніцтва паміж рознымі сацыяльнымі і веравызнаўчымі групамі нашага насельніцтва. За дараваньне былых грахоў тым прадстаўнікам таталітарнай сыстэмы, хто ня толькі на словах, але і на справе будзе адраджаць грамадзтва.

Разам з тым пачуцьцё справядлівасьці ды інтарэсы грамадзтва ў цэлым патрабуюць прыняцьця заканадаўчых мераў, якія б не дазволілі найбольш упартым і непрымірымым прадстаўнікам былой камуністычнай намэнклятуры весьці разбуральную працу супраць сувэрэннай Беларусі й яе будучыні.

## 2.7. Нацыянальная ідэя

Умацаваньне сувэрэнітэту, стварэньне паўнавартаснай дзяржаўнасьці, падвышэньне міжнароднага аўтарытэту Беларусі, як і раней, застаецца галоўнаю мэтаю Беларускага Народнага Фронту. Мы лічым, што нацыя, нацыянальная супольнасьць ёсьць натуральным вынікам сацыяльнасьці чалавечай прыроды. Яна валодае вечнымі правамі, рэалізацыя якіх залежыць не ад назапашанага ёю палітычнага, эканамічнага ці ваеннага патэнцыялу, а выключна ад яе ўласнае волі.

Правы нацыі і правы асобы на самараскрыцьцё роўнавялікія. Але гэты праўны парытэт не стварае і ня можа стварыць невырашальных канфліктаў, калі кіравацца безумоўнай роўнасьцю грамадзянскіх правоў асобы любой нацыянальнасьці, даваць магчымасьць задавальненьня духоўных патрэбаў нацыянальнай меншасьці праз права нацыянальна-культурнай аўтаноміі.Разам з тым прынцып нацыянальнага сувэрэнітэту дыктуе неабходнасьць дзяржаўнага кантролю за асноўнымі галінамі нацыянальнай эканомікі й сыстэмай адукацыі, каб пазбавіцца ад недапушчальнай аднабаковасьці і абмежаванасьці, якія зьяўляюцца цяжкою спадчынай каланіяльнае мінуўшчыны.

Мы за стварэньне палітычных умоваў для свабоднага і самастойнага вырашэньня грамадзтвам усіх праблемаў дзяржаўнага й гаспадарчага будаўніцтва, міжнародных адносінаў. За вольнае і нязмушанае разьвіцьцё беларускай мастацкай культуры, за пошук свайго ўласнага аблічча ў галіне навуковых досьледаў і тэхналягічных распрацовак. За тое, каб нашыя нацыянальныя каштоўнасьці й адроджаная гістарычная памяць былі духоўным асяродкам для выхаваньня новага пакаленьня.

Наш нацыянальны падыход ня мае нічога агульнага з шавінізмам ці аўтаркіяй. Мы прызнаем і паважаем права кожнай нацыянальнай меншасьці на сваё ўласнае нацыянальна-культурнае самабытнае разьвіцьцё. Мы за добразычлівыя, раўнапраўныя і ўзаемакарысныя адносіны з усімі блізкімі й далёкімі суседзямі Беларусі. Мы за падтрымку міжнародных арганізацыяў, дзейнасьць якіх забясьпечвае згоду й абарону правоў чалавека.

## 2.8. Незалежная дзяржава

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" зыходзіць з таго, што правы асобы й правы народу ўтвараюць непарыўнае адзінства, якое ёсьць падмуркам сапраўднае дэмакратыі.

Нацыянальная дзяржава абараняе і падтрымлівае грамадзкую супольнасьць, паяднаную культурнай спадчынай. Асоба, яе свабода, дэмакратычнае грамадзтва рэалізуюцца толькі ў НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Уласная дзяржава, як форма самаарганізацыі грамадзтва і як спосаб самазахаваньня нацыі, – найвялікшая каштоўнасьць беларускага народу, сьведчаньне яго таленту, жыцьцяздольнасьці, пэрспэктывы. Абарона і ўмацаваньне незалежнай беларускай дзяржавы – мэта, задача і спосаб існаваньня Беларускага Народнага Фронту.

БНФ выступае за ўмацаваньне дзяржаўных інстытутаў, якія бароняць незалежнасьць краіны. Павінны жорстка карацца замахі на незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць дзяржавы.

БНФ выступае за строгае выкананьне дастаткова дэмакратычнага й талерантнага Закону аб грамадзянстве Беларусі. Мы катэгарычна выступаем супраць увядзеньня двайнога грамадзянства, якое можа падарваць асновы беларускай дзяржаўнасьці.

# III Раскрыцьцё асобы

## 3.1 Сям'я

Сёньня ўяўляецца сьмешным камуністычнае прароцтва пра адміраньне сям'і. Але сацыяльная практыка камунізму істотна падарвала аўтарытэт і ўстойлівасьць гэтай першаснай формы чалавечага суіснаваньня і падмурку грамадзянскай супольнасьці.

Таму абарона і падтрымка сям'і – найважнейшая мэта праўнай дзейнасьці дзяржавы.

Аснова нашай палітыкі ў гэтай галіне – падтрымка трываласьці шлюбу, які прызнае роўнасьць і ўзаемную адказнасьць мужа й жонкі і магчымы на глебе партнэрства. Галоўная мэта шлюбу – выхаваньне дзяцей, за якіх у роўнай ступені нясуць адказнасьць бацькі.

Кожнае дзіця мае права на сваю сям'ю, на ўвагу, клопат і любоў сваіх бацькоў, бо фармаваньне моўнага дару, разумовых здольнасьцяў, індывідуальнай непадобнасьці, сыстэмы сацыяльна–псыхалягічных каштоўнасьцяў, пачуцьця адказнасьці ў значнай ступені адбываецца ў сямейных умовах. Таму маці ў першыя гады жыцьця свайго дзіцяці павінна мець магчымасьць устрымацца ад працы па прафэсіі. Яна мае таксама права цалкам прысьвяціць сябе выхаваньню дзяцей і павінна атрымліваць у сувязі з гэтым эканамічную, праўную й сацыяльную дапамогу. Выплата дапамогі на выхаваньне дзяцей і вызначэньне памеру пэнсіі з улікам затрачаных на выхаваньне гадоў носяць абавязковы характар.

Сям'я ня толькі рыхтуе дзіця да самастойнага жыцьця. Яна таксама вызначае і грамадзкія паводзіны сваіх членаў.

Мэта ўмацаваньня сям'і патрабуе забароны дзейнасьці, накіраванай на распальваньне варожасьці паміж дзецьмі і іх бацькамі. Нельга падрываць крыніцы даверу і сувязь дзяцей з бацькоўскім домам.

Асаблівай дзяржаўнай падтрымкі заслугоўваюць шматдзетныя сем'і, сем'і зь дзецьмі–інвалідамі і няпоўныя сем'і, а таксама тыя, што бяруць на сябе адказнасьць за догляд за старымі і нямоглымі роднымі.

БНФ – за меры, скіраваныя на спыненьне спаду нараджальнасьці, у т.л. горадабудаўнічую палітыку, за стварэньне неабходнай колькасьці дзіцячых садкоў, школ, шпіталяў, за рэгляментацыю працягласьці працоўнага тыдня.

## 3.2. Мова, выхаваньне, адукацыя, культура

БНФ "Адраджэньне" зыходзіць з таго, што прагрэс чалавецтва магчымы толькі ў шматстайнасьці народаў; што пэрспэктыва Беларусі залежыць ад кансалідацыі беларускага народу на падставе ягоных спадвечных нацыянальных, маральных, дэмакратычных каштоўнасьцяў. БНФ выступае:

– за дзяржаўную палітыку разьвіцьця й аховы беларускае культуры й мовы пры дапамозе адпаведных законаў ды эфэктыўны кантроль за іх выкананьнем, за прыярытэт беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці;

– супраць спробаў асыміляцыі беларускага этнасу: палітыкі "двумоўя", скіраванай на недапушчэньне беларускае мовы ў ключавыя сфэры дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця, палітыкі зьменшэньня адноснай колькасьці карэннага этнасу на Беларусі;

– за дзяржаўную й грамадзкую падтрымку імкненьня захаваць нацыянальную тоеснасьць беларусаў за межамі нашай краіны, асабліва насельнікаў этнічна беларускіх земляў;

– за права кожнае нацыянальнае меншасьці Беларусі на нацыянальна-культурную аўтаномію, на дзяржаўную дапамогу ў культурна-асьветнай дзейнасьці.

Як дзяржаўная, так і прыватная сыстэма адукацыі павінна знаходзіцца пад пільным і добразычлівым грамадзкім кантролем. Гэта тым больш неабходна, што яна, пачынаючы з садкоў і да ВНУ, патрабуе тэрміновай ды ўсебаковай рэформы. Мэта такой рэформы – стварэньне сучаснай нацыянальнай сыстэмы адукацыі, дэідэалягізацыя, гуманізацыя і "гістарызацыя" выхаваньня.

Будучыня асобы ў значнай ступені вызначаецца якасьцю выхаваньня і адукацыі. Яны закліканыя дапамагчы чалавеку рэалізаваць сваё жыцьцё ў духу ўсьвядомленай ім свабоды, знайсьці сваё месца ў прафэсійнай і грамадзкай сфэры. Таму вельмі важна пазбавіцца ў сыстэме выхаваньня ад усялякіх сьлядоў камуністычнай ідэялёгіі.

Заснаваная на свабодзе дэмакратычная сыстэма мае патрэбу ў грамадзянах, здольных самастойна думаць і прымаць адказныя рашэньні. Задачай выхаваньня і адукацыі ня можа быць фармаваньне сьветапоглядных прыхільнасьцяў ці нэўтральнае да каштоўнасьцяў усеяднасьці. Чалавек павінны вучыцца ўсьведамляць сваю годнасьць і свабоду, выконваць абавязкі і карыстацца правамі, выяўляць талерантнасьць і салідарнасьць да бліжняга, а таксама ведаць сутнасьць праўнай дзяржавы.

Ня можа быць пэдагогікі, зарыентаванай на міжасабовыя, сацыяльныя ці нацыянальныя канфлікты.

У нашай шматканфэсійнай краіне школа ня можа навязваць моладзі веру ў Бога ці прыхільнасьць да нейкага веравызнаньня.

Народ ня можа адрадзіцца, а незалежная дзяржава ня можа захавацца і ўмацавацца без адраджэньня гістарычнай памяці. Адной з найважнейшых мэтаў выхаваньня і адукацыі зьяўляецца фармаваньне гістарычный сьведамасьці. Шматгадовае ігнараваньне айчыннай гісторыі, руйнаваньне гістарычных арыентыраў, нацыянальных каштоўнасьцяў прывяло да глыбокага духоўнага крызысу нашага грамадзтва. Сыстэматычнае выкладаньне гістарычных ведаў паспрыяе паглыбленьню кампэтэнтнасьці, набыцьцю нацыянальнай сьведамасьці, узмацненьню імунітэту ад ідэялягічных спакусаў.

Ня можа быць паўнавартаснай адукацыі бязь пільнай увагі да эстэтычнага выхаваньня. Літаратура, гісторыя мастацтва разам з вывучэньнем фальклёру дапамогуць гуманізаваць выхаваўчы працэс і паспрыяюць раскрыцьцю творчага патэнцыялу чалавека.

Дзякуючы кантактам з мастацтвам чалавек паглыбляе ўяўленьне пра жыцьцё. Абавязак дзяржавы – падтрымаць дзеячоў мастацтва, не дазволіць зьбяднець мастацкаму жыцьцю і забясьпечыць магчымасьць далучэньня да мастацкіх каштоўнасьцяў максымальнай колькасьці людзей. Бібліятэкі, музэі, тэатры павінны быць даступныя ўсім сацыяльным групам.

Важнаю задачаю дзяржавы зьяўляецца вяртаньне гістарычных і культурных каштоўнасьцяў беларускага народу, вывезеных за апошнія два стагодзьдзі зь Беларусі.

Ва ўмовах стварэньня, побач зь дзяржаўнымі, прыватных навучальных установаў мы ня лічым магчымым адмаўленьне ад жорстка арганізаванага навучальнага працэсу. Бацькі й дзеці маюць права на тое, каб зьмест адукацыйных праграмаў вызначаўся сыстэмаю каштоўнасьцяў і нормаў Асноўнага Закону, а якасны ўзровень навучаньня адпавядаў агульнадзяржаўным патрабаваньням.

Разам з тым школа ня можа зьбівацца і на шлях тэхнакратычнай жорсткасьці, ігнаруючы інтарэс вучняў да навучальнага працэсу і розьніцу ў іхным інтэлектуальным развіцьці. Погляд на магчымасьць заканчэньня школы прынцыпова кожным вучнем выявіў сваю памылковасьць. І тым ня менш кожны вучань, незалежна ад здольнасьцяў, павінны мець магчымасьць бясплатнага навучаньня.

Школа мусіць падтрымліваць імкненьне дапамагчы слабаму, праявіць увагу і пашану да блізкага. Гэтым школа разам зь імкненьнем да поўнага самараскрыцьця загартоўвае ў вучняў пачуцьцё салідарнасьці.

Асаблівую ўвагу пры рэформе сыстэмы прафэсійнай падрыхтоўкі і вышэйшай адукацыі неабходна зьвярнуць на прыстасаваньне іх да патрэбаў рынку працы. У якасьці альтэрнатывы тэарэтычным курсам неабходна стварыць шырокі набор практычна зарыентаваных дысцыплінаў.

Павінна быць захавана права бясплатнага атрыманьня вышэйшай адукацыі кожным здольным маладым чалавекам ці дзяўчынаю.

Рэспубліка Беларусь, як дзяржава, гаспадарка якой можа быць найлепш заснаваная на навукаёмістых тэхналёгіях, ня ў стане абысьціся без эфэктыўнай сыстэмы навуковых дасьледаваньняў. Духу нашай традыцыйнай культуры адпавядае свабода навуковых распрацовак, выкладаньня й навучаньня. У гэтым – гарантыя эфэктыўнасьці ды гнуткасьці навукі й вышэйшай адукацыі, установам якой неабходна стварыць умовы для пашырэньня навуковых дасьледаваньняў.

Карэннай рэформе падлягае сыстэма акадэмічнай навукі. Яна ня можа заставацца замкнёнай, ізаляванай ад надзённых патрэбаў жыцьця. Неабходна ня толькі ўзмацніць сувязі з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, але істотна памяняць кірунак навуковых распрацовак.

Структурная перабудова навукі й вышэйшай школы патрабуе часу. Дзяржава ня можа дапусьціць, каб народ губляў інтэлектуальны патэнцыял. Таму на пераходны пэрыяд павінна быць захаваная дастатковая дзяржаўная падтрымка навукі й вышэйшай школы. Павінны таксама быць прынятыя адпаведныя заканадаўчыя акты для стварэньня прымальных умоваў працы таленавітых вучоных і абароны інтэлектуальнай маёмасьці ў Беларусі.

## 3.3. Праца й адпачынак

Праца – гэта ня толькі сродак забесьпячэньня жыцьця, але й форма самасьцьверджаньня, выяўленьня годнасьці чалавека. Неабходна вярнуць добрасумленнай працы яе высокі этычны статус, характэрны для традыцыйнае беларускае культуры. Справядлівасьць і гуманнасьць патрабуюць, каб кожны меў магчымасьць працаваць. Права на свабодную працу накладае на партнэраў па тарыфных пагадненьнях і дзяржаву абавязак выкарыстаць усе магчымасьці для забесьпячэньня занятасьці. З другога боку, добрасумленная праца ёсьць выяўленьне з боку працаўніка салідарнага абавязку перад грамадзтвам.

Але пераход да сацыяльнай рынкавай гаспадаркі, заснаванай на свабоднай канкурэнцыі

вытворцаў розных формаў уласнасьці, ня можа адбыцца без стварэньня рынку працы. Ва ўмовах непазьбежнага беспрацоўя важны абавязак дзяржавы – стварэньне шырокіх магчымасьцяў перакваліфікацыі, набыцьця новых прафэсіяў, палягчэньне перацяканьня працоўных рэсурсаў у новыя галіны вытворчасьці, у тым ліку ў сельскую гаспадарку.

Нашае грамадзтва чакаюць нялёгкія выпрабаваньні, зьвязаныя з структурнай і тэхналягічнай перабудовай вытворчасьці, з пошукам новых рынкаў збыту беларускіх тавараў, новых крыніцаў сыравіны й энэргарэсурсаў. Пераадолець гэтыя цяжкасьці нам дапаможа пачуцьцё салідарнасьці і традыцыйныя рысы беларускае культуры – дысцыплінаванасьць, працавітасьць, цярпеньне.

Мы будзем падтрымліваць зьніжэньне недапушчальных працоўных нагрузак, спрыяць гнуткаму разьмеркаваньню працоўнага часу і скарачэньню долі начных зьменаў, што спрые сямейнаму дабрабыту, заахвочвае да ўдзелу ў грамадзкім жыцьці, да падвышэньня кваліфікацыі. Мы будзем спрыяць удзелу працаўніка ў працэсе калектыўнага кіраваньня вытворчасьцю.

Вельмі істотнаю часткаю працоўнае культуры ў новых умовах зьяўляецца здольнасьць падтрыманьня міру ў працоўных дачыненьнях. Дзяржава не павінна браць на сябе тое, што партнэры па тарыфных пагадненьнях здольныя вырашыць самі ў інтарэсах агульнага дабра. Тыя, хто працуе па найме, і працадаўцы (прадпрымальнікі, адміністрацыя) выконваюць неаднолькавыя функцыі ў сфэры працы. Існуючы ў адным грамадзтве, яны вымушаны імкнуцца да ўзаемаразуменьня ў духу партнэрства.

Асаблівая функцыя ў новых сацыяльна-эканамічных умовах будзе належаць прадпрымальніку, мэнэджэру, кіраўніку вытворчасьці. Характэрныя якасьці прадпрымальнага чалавека – гэта здольнасьць і гатоўнасьць праяўляць ініцыятыву, прымаць рашэньні, не шкадаваць сябе, ісьці на рызыку, разумець законы рынку, імкнуцца да новаўводзінаў, кіраваць людзьмі, натхняць супрацоўнікаў і каардынаваць іхную працу. Даўно састарэла ўяўленьне аб прадпрымальніку выключна як аб інвэстару вытворчасьці, які толькі ўкладае капітал, а потым атрымлівае незароблены прыбытак. Сацыяльная роля прадпрымальніка – у адказнасьці за прагрэс гаспадаркі, за канкурэнтаздольнасьць тавараў, за стварэньне працоўных месцаў.

Праца ня ёсьць тавар, як сьцьвярджаюць марксысты. Праца – гэта чалавек: яго ўменьне, сіла, энэргія. Таму наёмныя працаўнікі маюць натуральнае права аб'ядноўвацца, каб супольна бараніць магчымасьць прадаць працу на чым выгаднейшых умовах.

БНФ выступае за разьвіцьцё руху прафэсійных саюзаў на дэмакратычнай і раўнапраўнай аснове. Цяпер, калі на ўздыме дэмакратычнага руху паўстаў беларускі рабочы рух і арганізацыйна аформіўся ў незалежных прафэсійных саюзах, скончылася манаполія афіцыйных прафсаюзаў – часткі таталітарнае сыстэмы. БНФ выступае за скасаваньне прывілеяванага становішча Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі – былога Белсаўпрафу, куды дзесяцігодзьдзямі не пытаючыся запісвалі ўсіх працоўных, які быў "школай камунізму" і дзякуючы гэтаму цяпер распараджаецца велізарнаю маёмасьцю.

БНФ "Адраджэньне" падтрымлівае ўтварэньне па ініцыятыве рабочых новых прафэсійных саюзаў, падтрымлівае іхную барацьбу за абарону правоў работнікаў, за пэрсаніфікацыю сацыяльнага страхаваньня, за яго ажыцьцяўленьне дзяржаўнымі органамі.

Надалей БНФ бачыць ролю прафсаюзаў ня ў якасьці прылады клясавае барацьбы або партыйных інтарэсаў, а ў якасьці прымірэнчага паміж рабочымі й працадаўцамі чыньніку. Змаганьне паміж інтарэсамі рабочых і працадаўцаў павінна весьціся ў межах заканадаўства, права на свабоду прадпрымальніцтва, здаровага сэнсу й сумленнасьці. Дзейнасьць прафсаюзаў і аб'яднаньняў працадаўцаў павінна прыводзіць да супрацоўніцтва, якое стымулюе вытворчасьць. Як паказвае сусьветная практыка, ва ўзаемадзеяньні гэтых дзьвюх сілаў можа быць знойдзена тая раўнавага, якая задаволіць як працаўніка, так і прадпрымальніка. І першы будзе атрымліваць справядлівую ўзнагароду за добрасумленную працу, а другі – за рызыку ды ініцыятыву.

Мы выступаем за свабоду выбару прафэсіі, свабоду выбару месца працы. Але лічым бясспрэчнай вартасьцю права мець працу на сваёй радзіме. Мы будзем імкнуцца да таго, каб людзі былі забясьпечаны працаю на сваёй Бацькаўшчыне.

Праца можа быць вельмі цяжкай, калі чалавек ня мае паўнавартаснага адпачынку. Адпачынак дапамагае чалавеку зьдзейсьніць творчыя здольнасьці, якія ня могуць быць раскрытыя ў працоўнай сфэры. Адпачынак неабходны чалавеку і для кантакту з прыродаю, і для выхаваньня дзяцей. Мы лічым, што сыстэма дамоў адпачынку й санаторыяў павінна быць захаваная й пашыраная.

Вялікая роля ў стварэньні магчымасьцяў паўнавартаснага адпачынку належыць спорту. Дзяржава павінна падтрымаць прафэсійны спорт, заахвочваць самадзейны спартыўны рух як сярод моладзі, так і людзей старэйшага ўзросту.

### 3.4. Жыльлё і горадабудаўніцтва

Жыльлёвая праблема – адна з самых балючых, пакінутых нам таталітарнаю сыстэмаю. У будаўнічую індустрыю павінна быць накіраваная значная доля сродкаў, атрыманых ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці, і ў першую чаргу жылога фонду. У гэтую галіну народнай гаспадаркі павінны перацячы і працоўныя рэсурсы, якія вызваляцца ў выніку канвэрсіі ды структурнай перабудовы вытворчасьці. Продаж жыльля можа зрабіць будаўнічую індустрыю прыбытковаю. Павінен быць захаваны і дзяржаўны жыльлёвы фонд, які трэба скарыстаць для задавальненьня патрэбаў тых, хто ўжо значны час стаіць у чэргах на жыльлё, а таксама шматдзетных сем'яў і сем'яў з хворымі ды інвалідамі.

Набыцьцё свайго дому ці кватэры робіць чалавека ўласьнікам. У магчымасьці стаць уласьнікам рэалізуецца істотная доля чалавечай свабоды. Таму БНФ будзе падтрымліваць людзей у гэтым натуральным імкненьні.

На тэрміновую мадэрнізацыю гарадзкой інфраструктуры, транспарту, энэрга- і цеплазабесьпячэньня павінны быць скіраваныя сродкі мясцовых (муніцыпальных) органаў улады.

Вырашаючы праблемы неадкладныя, нельга забываць і пра доўгатэрміновыя мэты – стварэньне адпаведнага сацыяльнага асяродзьдзя. У гарадзкіх раёнах, дзе сканцэнтраваная асноўная маса насельніцтва, абавязковыя захады дзеля аховы прыроднага асяродзьдзя. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на рэстаўрацыю і аднаўленьне помнікаў архітэктуры й гісторыі, зважаючы на іхную вялікую выхаваўчую ролю.

Галоўны акцэнт нашай палітыкі ў галіне жыльлёвага будаўніцтва ў сельскай мясцовасьці зьвязаны з акультурваньнем вёскі і яе адраджэньнем. Разам з тым дзяржава павінна спрыяць і падтрымліваць стварэньне й будаўніцтва фэрмарскіх гаспадарак.

## IV. Сацыяльная рынкавая гаспадарка

### 4.1. Прынцыпы вольнага сацыяльна-эканамічнага парадку

Беларускі Народны Фронт выступае за стварэньне сацыяльнае рынкавае гаспадаркі.

Відавочна, што гэтая эканамічная сыстэма супрацьстаіць сацыялістычнай эканоміцы. Прынцыпу цэнтралізаванага кіраваньня гаспадаркай яна проціпастаўляе кіраваньне эканамічнымі працэсамі з дапамогаю рынкавых цэнаў у канкурэнцыі паміж вытворцам і спажыўцом. Гэта – рынкавая гаспадарка. Яна не выключае плянаваньня, але плянаваньне ў ёй падзелена паміж многімі. Калі ў аснове сацыялістычнай эканомікі ляжыць прынцып прымусу, дык рынкавая эканоміка, наадварот, характарызуецца фактарам свабоды.

Ва ўмовах рынкавай гаспадаркі дзеяньні асобных эканамічных суб'ектаў вызначаюцца не ўсеагульным цэнтралізаваным плянам, а цэнамі на тавары й паслугі, якія дыктуе рынак. Пры нармальным функцыянаваньні рынкавай эканомікі тавары й паслугі трапляюць да таго, хто гаспадарыць лепш за іншых. І гэта ў роўнай ступені тычыцца як вытворцы, так і спажыўца. Таму прынцып свабоднага рэгуляваньня цэнаў павінен распаўсюджвацца як на спажывецкія тавары, так і на прамежкавыя прадукты й сыравіну, каб цэны маглі рэгуляваць вытворчасьць.

Аднак мэханізм рынкавай эканомікі будзе дзейнічаць толькі ў тым выпадку, калі дзяржава гарантуе адпаведны праўны парадак. У гэтым сэнсе і рынкавая эканоміка ня можа адмовіцца ад прымусу з боку дзяржавы. Але яна абмяжоўвае гэты прымус правілам: "умяшальніцтва адпавядае патрабаваньням рынку". БНФ за дзейны праўны парадак і эфэктыўнае права на канкурэнцыю, за засьцярогу ад падрыву рынкавай сыстэмы дэструктыўнымі антырынкавымі сіламі.

Сацыяльная рынкавая гаспадарка супрацьстаіць і канцэпцыі абсалютнага эканамічнага лібэралізму, які заснаваны на патрабаваньні свабоднай канкурэнцыі і няўмяшальніцтва дзяржавы ў эканоміку. Эканамічны лібэралізм лічыць, што сыстэма эканамічных адносінаў, дзе вытворцу даецца поўная, нічым не абмежаваная свабода, нагадвае аўтамат, які здольны да самарэгуляваньня і які забясьпечвае найвялікшы эканамічны рост.

Але сёньня добра вядома пра недахопы мэханізму канкурэнцыі і недасканаласьць рынку, перш за ўсё пра пагрозу манаполіі. У Беларусі добра відаць, да чаго вядзе захоп рынку асобаю ці групаю асобаў, што знаходзяцца ў змове. Такі рынак не стымулюе вытворчасьць, а вядзе да спэкуляцыі, дэфіцыту і законнага рабаваньня спажыўца ў выніку зьнішчэньня канкурэнцыі. Таму рынкавая эканоміка ў лепшым выпадку дзейнічае як паўаўтамат, які патрабуе ўмелага кіраваньня.

Рынак, як мэханізм аптымальнага забесьпячэньня дабротамі, адпавядае як эканамічнай неабходнасьці, так і крытэрыям этыкі. Але ён мае быць дапоўнены мэханізмамі сацыяльнай кампэнсацыі й падтрымкі. Пры гэтым грамадзкая палітыка сацыяльных кампэнсацыяў не павінна парушаць асноўных эканамічных законаў, улічваць абмежаванасьць наяўных рэсурсаў, неабходнасьць цэнаў, якія б пакрывалі выдаткі.

Першачарговым клопатам дзяржавы зьяўляецца абарона свабоды канкурэнцыі, нагляд за тым, каб нагрузкі на навакольнае асяродзьдзе кантраляваліся законам, каб своечасова адбываліся структурныя зьмены ў адпаведнасьці з прагрэсам навукі і тэхналёгіі, каб рынак працоўнай сілы ня быў перагружаны беспрацоўнымі.

Рынак ня можа нараджаць сацыяльную справядлівасьць сам па сабе. Справядлівая ўзнагарода працоўнага ўкладу ва ўмовах рынкавых дачыненьняў яшчэ ня ёсьць сацыяльная справядлівасьць. У грамадзтве заўсёды ёсьць слабыя й моцныя, здаровыя й хворыя, шчасьлівыя і няўдачлівыя. Шанцы ў жыцьці рэалізуюцца нераўназначна нават пры роўных зьнешніх умовах. Сацыяльная рынкавая гаспадарка аб'ядноўвае рынкавы мэханізм і сыстэму сацыяльных мераў у адзіную грамадзка-палітычную сыстэму.

Сацыяльная рынкавая гаспадарка – гэта эканамічная й грамадзка-палітычная праграма, зьвернутая да ўсіх. Яе асновы – гэта працоўны ўклад і сацыяльная справядлівасьць, канкурэнцыя і салідарнасьць, адказнасьць кожнага за сябе і сацыяльныя гарантыі.

Яна забясьпечвае грамадзяніну індывідуальную свабоду, роўнасьць магчымасьцяў, уласнасьць, рост дабрабыту, сацыяльны прагрэс.

У гэтай сыстэме эканамічная і сацыяльная палітыка шчыльна зьвязаны. Памылковыя палітычныя рашэньні абарочваюцца беспрацоўем, інфляцыяй, стагнацыяй, парушаюць сацыяльны мір. Таму посьпех сацыяльнай рынкавай гаспадаркі залежыць ад правільнага выкананьня яе прынцыпаў.

### 4.2. Эканамічны лад

Пасля многіх год асацыяльнай эканамічнай палітыкі галоўная мэта нашага грамадзтва ў тым, каб прывесьці прыватны інтарэс у адпаведнасьць з патрабаваньнем агульнага дабра, каб індывідуальны працоўны ўклад служыў агульным інтарэсам. Дзеля гэтага дзяржава вызначае мэты канкурэнцыі, гарантуе свабоду эканамічных пагадненьняў, формаў уласнасьці, вызначае праўныя межы гаспадарчай дзейнасьці і праўную сутнасьць працоўных дачыненьняў.

Той, хто можа працаваць, але ўхіляецца ад працоўнага ўкладу, дзейнічае асацыяльна. Працаўнік у кожным разе заслугоўвае большых дабротаў, чым той, хто пазьбягае ўдзелу ў працоўным працэсе. Асацыяльна дзейнічае і той, хто ўкладае маёмасьць, набытую ў пэрыяд праўнай неразьбярыхі, выключна ў прыватнае спажываньне, а не клапоціцца пра аднаўленьне народнай гаспадаркі.

"Упарадкаваная" канкурэнцыя належыць да значных культурных дасягненьняў сучаснай цывілізацыі. Для заахвочваньня канкурэнцыі важна ўдасканальваць заканадаўства, памятаючы пра пастаянную небясьпеку ўсталяваньня манаполіі.

Асноваю сацыяльнай рынкавай гаспадаркі зьяўляецца збалянсаваная структура малых, сярэдніх і буйных прадпрыемстваў. Ад канкурэнцыі пакутуюць у першую чаргу малыя і сярэднія прадпрыемствы. Ім цяжэй пераадолець матар'яльныя й фінансавыя перашкоды, атрымаць крэдыты. Задача дзяржаўнае палітыкі канкурэнцыі якраз у тым, каб прыняць гэтыя перашкоды і палегчыць малым вытворчасьцям уваходжаньне ў рынкавыя дачыненьні. Вынікам жа зьяўляецца істотнае ўзбагачэньне рынку тавараў і паслуг.

Палітыка падтрымкі канкурэнцыі і палітыка ў галіне ўласнасьці дапаўняюць адна адну. Прыватная ўласнасьць – вугольны камень сацыяльнай рынкавай эканомікі. У пэрспэктыве яна мусіць стаць вядучай формай уласнасьці і прывесьці нашае грамадзтва ў сям'ю дэмакратычных краінаў Эўропы. Але ў бліжэйшы час побач з прыватнай будзе захоўвацца дзяржаўная форма ўласнасьці, прыватызацыя якой павінна даць сродкі для структурнай перабудовы прамысловасьці Беларусі і пазбаўленьня яе ад штучна створанай залежнасьці ў пастаўках сыравіны і энэргарэсурсаў.

Прыватызацыя дзяржаўнай маёмасьці прывядзе да зьяўленьня разнастайных формаў калектыўнай уласнасьці – акцыянэрнай, каапэратыўнай, сямейнай. Усе грамадзяне павінны мець доступ да розных формаў уласнасьці.

Адной з найвастрэйшых праблемаў пераходнага часу ў Беларусі будзе недахоп сродкаў для інвэставаньня ў новыя вытворчасьці. Прыцягнуць неабходныя капіталы можна двума шляхамі:

– стварэньнем спрыяльных заканадаўчых умоваў для замежных інвэстараў, прычым Беларусі прыйдзецца гандляваць сваёю працоўнаю сілаю, пакуль ня ўтворыцца свой айчынны капітал;

– істотным павелічэньнем у цане прадукцыі долі, якая выплочваецца наёмным працаўнікам. Гэтая доля павінна дасягнуць памераў, характэрных для разьвітых прамысловых краінаў. Істотнае падвышэньне заробкаў паспрыяе назапашваньню вытворчай маёмасьці ў руках наёмных работнікаў. Гэта ператворыць іх ва ўласьнікаў, зацікаўленых у эфэктыўнасьці вытворчасьці, паспрыяе ўсталяваньню сацыяльнага міру, створыць рэальную базу для дэмакратыі й свабоды.

Беларускі Народны Фронт за ўвядзеньне сваёй валюты (талера). Бяз гэтага кардынальнага кроку немагчыма спыніць інфляцыю, пераадолець спад вытворчасьці, парваць каляніяльную эканамічную залежнасьць. Але стварэньне стабільнай, канвэрсавальнай валюты будзе патрабаваць ахвяраў.

Увядзеньне нацыянальнай валюты патрабуе стварэньня сваёй крэдытна-фінансавай сыстэмы і захадаў дзеля спыненьня інфляцыі. Стабільны кошт грошай – вырашальная ўмова для стварэньня ўстойлівай эфэктыўнай эканомікі. Толькі стабільная валюта робіць магчымай рэальную аплату працы ў залежнасьці ад укладзеных у яе намаганьняў. Кошт грошай можа быць падтрыманы на пастаянным узроўні пры ўмове расьсеяньня маёмасьці. Сацыяльнае забесьпячэньне незаможных таксама залежыць ад стабільнасьці кошту грошай.

### 4.3. Задачы дзяржаўнай эканомікі

Яшчэ даволі працяглы час пануючай формай уласнасьці ў Беларусі будзе заставацца дзяржаўная ўласнасьць. Для наданьня канкурэнтаздольнасьці вытворчасьці дзяржаўнай формы маёмасьці неабходна падзяліць функцыі ўлады і ўласнасьці. Уладныя перадаць міністэрствам і холдынгавым кампаніям, а маёмасныя – Камітэту альбо Фонду дзяржмаёмасьці. Кожная юрыдычная асоба зь ліку дзяржаўных прадпрыемстваў павінна ажыцьцяўляць гаспадарчую дзейнасьць на агульных падставах з прадпрыемствамі прыватнага сэктару і кіравацца рынкавымі законамі. Гэта азначае, што правы дзяржавы як уласьніка павінны быць абмежаваныя настолькі, каб існавала свабода перапампоўваньня сродкаў ад неэфэктыўных да эфэктыўных прадпрыемстваў.

Трэба прыняць закон аб банкруцтве, каб сродкі, укладзеныя ў неэфэктыўныя вытворчасьці, не марнаваліся, а сталі крыніцаю для гаспадарчага адраджэньня. Але ва ўмовах адміністрацыйнага кіраваньня практычна немагчыма дакладна вызначыць, якое прадпрыемства эфэктыўнае, а якое не. Таму перш чым уводзіць закон аб банкруцтве ў дзеяньне, пакуль захоўваецца дзяржаўны кантроль над абсалютнаю бальшынёю тавараў і паслуг, неабходна ажыцьцявіць цэнавую рэформу, прывёўшы структуру цэнаў у адпаведнасьць з мадэльлю, якая дзейнічае ў краінах з рынкаваю гаспадаркаю. Пасьля гэтага цэны можна рабіць вольнымі, пусьціць на ўнутраны рынак замежныя тавары, але праводзіць пры гэтым прадуманую і жорсткую пошлінную палітыку, каб забясьпечыць выжываньне і разьвіцьцё нацыянальнай вытворчасьці

А каб прадухіліць магчымасьць злачыннай змовы паміж кіраўнікамі дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў з мэтаю захаваць ненармальную цэнавую структуру, неабходна прыняць пакет антыманапольных законаў, якія б строга каралі змову вытворцаў за кошт спажыўцоў.

Тэрмінова неабходнае прыняцьцё дзяржаўнай праграмы структурнай перабудовы беларускай прамысловасьці. Гэта ня толькі канвэрсія вытворчасьцяў, якія працавалі на вайскова-прамысловы комплекс СССР, гэта таксама разьняволеньне ініцыятывы, заахвочваньне і прыцягненьне замежных інвэстыцыяў у галіны, дзе з найбольшаю эфэктыўнасьцю можа быць скарыстаны наш патэнцыял, прыродныя багацьці, а таксама здольнасьці і працалюбства нашых людзей.

Мы разумеем, што і ў межах сацыяльнай рынкавай гаспадаркі эўрапейскага ўзору ня ўсе чалавечыя патрэбы могуць быць задаволеныя выключна праз рынак. Таму дзяржава й грамадзянская супольнасьць мусяць уносіць карэктывы ў рынкавы мэханізм перш за ўсё там, дзе ён не спрацоўвае. Дзяржава ня можа абысьціся без падаткаў і адлічэньняў. Фармаваньне падаткавай сыстэмы пры гэтым павінна быць накіравана на павелічэньне аб'ёмаў вытворчасьці, прадукцыйнасьці працы, на правядзеньне актыўнай амартызацыйнай палітыкі.

Пры вызначэньні працэнту падаткаў неабходна памятаць аб справядлівасьці падаткаабкладаньня, ні ў якім разе не допускаючы падаўленьня прыватнай ініцыятывы. Зразумелая і прадуманая

падатковая сыстэма забясьпечыць справядлівае разьмеркаваньне падатковага цяжару.

Прадуманае падаткаабкладаньне стымулюе асабістую зацікаўленасьць у працы з улікам, зразумела, устаноўленых законам нормаў выдаткаў на ўтрыманцаў. Каб не падрываць эфэктыўнасьці народнай гаспадаркі, неабходна пазьбягаць празьмерных падаткаў. Такая палітыка заклікана стымуляваць жаданьне рабіць капіталаўкладаньне, уздымаць канкурэнтаздольнасьць беларускіх тавараў на сусьветным рынку, а не пускаць большую частку прыбытку на спажываньне. Прыярытэтным павінна стаць ускоснае стымуляваньне навуковых досьледаў і распрацовак асабліва для прадпрыемстваў сярэдніх памераў.

Бесьперапыннае і надзейнае забесьпячэньне краіны энэргіяй і сыравінай можа быць дасягнута шляхам ажыцьцяўленьня праграмаў эканоміі і стварэньня альтэрнатыўных крыніцаў энэргіі. Асаблівая роля ў гэтай справе належыць таксама нацыянальным запасам паліва – нафты і бурага вугалю, асваеньню ў большых памерах аднаўляльных відаў энэргіі.

БНФ выступае за неадкладную пераарыентацыю Беларусі на пастаўкі энэрганосьбітаў ад розных, канкурэнцыйных паміж сабою, пастаўшчыкоў. БНФ падтрымлівае ідэю стварэньня балтыйска-чарнаморскага мэрыдыянальнага нафтавага калектара, які б дазволіў краінам рэгіёну карыстацца пастаўкамі як з поўначы, гэтак і з поўдня.

## 4.4. Эканамічная рэформа

Мэта рэформы, якую адстойвае БНФ – стварэньне сучаснай і эфэктыўнай эканомікі, здольнай забясьпечыць годнае жыцьцё грамадзянаў.

Прынцыпы рэформы:

– рэфармаваньне эканомікі магчымае пры наяўнасьці абавязковых інстытутаў дзяржаўнасьці: мяжа, мытня, уласная валюта і крэдытна-фінансавая палітыка, інстытуты бясьпекі дзяржавы;

– прызнаньне права прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці і зямлю;

– безумоўнае захаваньне прынцыпаў недатыкальнасьці ўласнасьці і гарантыяў права ўласнасьці;

– забесьпячэньне свабоды эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці, свабоды спажываньня, стварэньне ўмоваў для канкурэнцыі і адказнасьці за нядобрасумленную канкурэнцыю;

– падзел функцыяў уласнасьці і ўлады ў дачыненьні да дзяржаўнай уласнасьці;

– падзел бюджэту дзяржавы і бюджэтаў прадпрыемстваў, адмова ад фінансаваньня зь дзяржаўнага бюджэту камэрцыйнай дзейнасьці прадпрыемстваў;

– увядзеньне ўсяго комплексу рынкавых дачыненьняў незалежна ад аб'ёму зьдзейсьненай прыватызацыі;

– структурная перабудова эканомікі на аснове рынкавых падыходаў;

– інвэстыцыйная палітыка "адчыненых дзьвярэй";

– валютная рэформа і замацаваньне талера як адзінага платнага сродку ў краіне;

– цэнавая структурная рэформа;

– крэдытна-фінансавая палітыка, накіраваная на зьніжэньне інфляцыі, на ўстойлівасьць талера і цэнаў як аснову для стабілізацыі працы прадпрыемстваў;

– новая бюджэтная і падаткавая палітыка, заснаваная на падзеле бюджэтаў дзяржавы і мясцовага самакіраваньня, дзяржавы і прадпрыемстваў, на атрыманьні падаткаў з уласнасьці, на зьніжэньні дзяржаўных выдаткаў, на прыняцьці зразумелых кожнаму абавязкаў па ўнутранай дзяржаўнай пазыцы;

– сацыяльная палітыка падтрымкі неабароненых пластоў насельніцтва за кошт частковага пераразьмеркаваньня даходаў праз падаткі;

– мытная абарона ўласнай вытворчасьці (часова);

– рух рабочай сілы да рабочых месцаў, а не наадварот;

– рэгуляваньне дачыненьняў з партнэрамі праз структуры тыпу міжбанкаўскіх саюзаў, міжнародных гаспадарчых судоў ды іншых каардынацыйных органаў.

**Першыя крокі рэформы:**

1. Разьдзяржаўленьне прадпрыемстваў. Для гэтага:

– удакладняюцца дачыненьні ўласнасьці, дыфэрэнцуюцца даходы ўласьніка, наёмнага працаўніка, прадпрымальніцкі даход;

– ацэньваецца ў цьвёрдай валюце капітал прадпрыемстваў і стаўкі даходаў;

– заключаюцца дамовы паміж дзяржавай-уласьнікам і групай прадпрымальнікаў, калектывам работнікаў (іхным прафсаюзам) і групай прадпрымальнікаў;

– прадпрыемствам, незалежна ад формы ўласнасьці, даецца поўная самастойнасьць у вытворчасьці і рэалізацыі прадукцыі.

2. Беларусь дамагаецца, каб дзяржавы, якія ўваходзяць у Садружнасьць, прынялі рашэньні аб недапушчэньні пратэкцыяністкай палітыкі да сваіх прадпрыемстваў, аб валютным саюзе і міжбанкаўскім пагадненьні, аб бяспошлінным гандлі, аб пастаўках, аб вольным руху капіталаў, тавараў, паслуг і г.д., аб арбітражы ці гаспадарчым міждзяржаўным судзе. У выпадку адмовы, ці невыкананьні пагадненьняў, ці навязваньні Беларусі чужой волі і невыгодных для яе рашэньняў, Беларусь выходзіць з СНД.

3. Уводзіцца прыватная ўласнасьць на зямлю.

4. Рыхтуюцца і праводзяцца валютная і цэнавая структурная рэформы.

5. У мэтах дэманапалізацыі і канкурэнцыі дасягаецца мноства пастаўшчыкоў і спажыўцоў.

6. Рыхтуецца прыватызацыя, пры якой большая частка дзяржаўнай уласнасьці перадаецца грамадзянам і ствараецца недзяржаўны сэктар эканомікі.

7. Ствараецца служба занятасьці і адмысловыя фонды грамадзкіх працаў і беспрацоўя.

Наступныя дзеяньні будуць залежаць ад посьпеху першых крокаў. Крэдытна-фінансавая палітыка Нацыянальнага банку і рэзэрвовых установаў, а таксама ўраду павінна скіроўвацца на стабілізацыю эканомікі.

Інтэграцыя Беларусі ў сусьветную гаспадарку павінна адбывацца на падставе моцнай і вызначанай дзяржаўнай стратэгіі. Найбольш мэтазгодна ўваходзіць у міжнародныя эканамічныя дачыненьні праз прыярытэтнае разьвіцьцё некалькіх пэрспэктыўных галінаў вытворчасьці.

## 4.5. Зямельнае пытаньне

Выжываньне нашага народу, нашай дзяржавы ў першую чаргу будзе залежаць ад посьпехаў у рэфармаваньні сельскай гаспадаркі. Мы стаім перад непазьбежнасьцю адмовіцца ад існай аграпрамысловай структуры і карэнным чынам памяняць адносіны паміж працоўнікам і зямлёю – нашым галоўным нацыянальным багацьцем. Зямля ня можа і надалей выкарыстоўвацца так неэфэктыўна. Ізноў вярнуць любоў селяніна да зямлі можна толькі ўвёўшы прыватную ўласнасьць на яе.

Але складанасьць сытуацыі ў тым, што калгасы ўжо ня могуць накарміць народ, а фэрмары яшчэ ня могуць. Калгасы існуюць ня толькі як вытворчыя адзінкі, але і як спэцыфічныя інстытуты сацыяльнага забесьпячэньня. Фэрмэрызацыя сельскай гаспадаркі мусіць адбывацца паступова і прадумана. Гэты пераходны працэс павінны ўлічваць інтарэсы і фэрмараў, і калгасаў, і калгасьнікаў, стаць выпрабаваньнем нашых здольнасьцяў дзейнічаць у духу салідарнасьці і справядлівасьці. Дзяржава ў цэлым павінна садзейнічаць падняцьцю вёскі і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі.

Павінен быць у першую чаргу прыняты Закон аб зямлі, дзе прадугледжана як дзяржаўная, так і прыватная форма ўласнасьці на зямлю. Такі закон адкрые шлях да пераўтварэньня калгасаў у каапэратывы, дзе кожны ўдзельнік будзе мець свой пай і свой надзел, будзе мець права выйсьці з каапэратыву і стварыць прыватную гаспадарку.

Землі сельскагаспадарчага прызначэньня належыць разглядаць як сродак вытворчасьці і жорстка рэгламантаваць іх выкарыстаньне. Пры гэтай умове магчыма дапусьціць бязвыплатную прыватызацыю часткі такіх земляў (да некалькіх гектараў на сям'ю, чаго дастаткова, каб распачаць уласную справу). Павінен мець права й рэальную магчымасьць атрымаць зямлю кожны, хто хоча й будзе на ёй працаваць. На Беларусі хапае зямлі, і кожны грамадзянін краіны, кожная сям'я павінна мець права на зямельны надзел для будаўніцтва жылога дома. І разам з тым неабходна мець рэзэрвовы дзяржаўны зямельны фонд, які можа быць скарыстаны ў выпадку зацягваньня палітычнага і эканамічнага крызысу як сродак выратаваньня ад нястачы. Трэба стварыць Сялянскі банк, дзе кожны фэрмар мог бы атрымаць зручны крэдыт.

Фронт выступае за аднаўленьне ў правох дзяржаўнай уласнасьці ў землекарыстаньні і за пакіданьне значнай часткі зямельнай уласнасьці ў руках дзяржавы. Арэнда зямлі ў дзяржавы ўсімі землекарыстальнікамі, у тым ліку калгасамі – найважнейшая ўмова пераходу да разумнай прыватызацыі.

Найважнейшы чыньнік эканамічнага рэгуляваньня землекарыстаньня – падатак на зямлю. Фронт выступае за дастаткова адчувальны памер гэтага падатку (прынамсі 10-15% сярэдняга даходу ад выкарыстаньня зямлі) і яго паступленьне ў бюджэт мясцовых самакіраваньняў.

Наша мэта – стварэньне эфэктыўнай канкурэнтаздольнай сельскай, лясной і рыбнай гаспадаркі, каб ня толькі забясьпечыць наша насельніцтва, якое за мінулае стагодзьдзе не павялічылася, а нават скарацілася, але і заняць сваё месца ў сфэры сусьветнага гандлю прадуктамі харчаваньня. Для гэтага неабходна, каб ня толькі каапэратывы, але і фэрмы ствараліся разам з комплексам прадпрыемстваў перапрацоўкі і збыту прадукцыі, якія б былі арганізацыйна залежнымі ад вытворцаў.

## 4.6. Экалягічная палітыка

Галоўныя экалягічныя праблемы Беларусі – гэта Чарнобыль, радыяцыйнае забруджаньне значнай часткі тэрыторыі краіны, і "хімічны Чарнобыль" – забруджаньне асяродзьдзя нітратамі, пэстыцыдамі, нафтапрадуктамі, цяжкімі мэталамі і г.д.

Безадказнае камуністычнае гаспадараньне стварыла гэтыя праблемы і адказвае за іх наступствы. Працягваецца вытворчасьць прадуктаў харчаваньня ў моцна забруджаных зонах, і дзяржава спрыяе гэтаму сваёй датацыйнай палітыкай.

БНФ выказваецца за датацыі экалягічна чыстай прадукцыі, дамагаецца ажыцьцяўленьня праграмы перасяленьня людзей з забруджаных раёнаў, выступае за поўную галоснасьць у выкарыстаньні велізарных сродкаў на зьмяншэньне наступстваў катастрофы.

БНФ лічыць, што недахоп энэргіі (каля 20%), які зараз адчувае Беларусь, павінен быць кампэнсаваны рэжымам эканоміі. Гэты рэжым дасягаецца скарачэньнем войска, адмоваю ад энэргаёмістых вытворчасьцяў, зьніжэньнем непрадукцыйных выдаткаў паліва ў сельскай гаспадарцы.

Актуальнай для краіны стала праблема забруджваньня вады й глебы. У гэтым, акрамя прадпрыемстваў, вінаватыя найперш калгасы, якія бязь меры ўносілі ў глебу фактычна дармавыя хімікаты. З ростам кошту апошніх трэба спадзявацца на больш абачлівае іх выкарыстаньне, а значыць, на паляпшэньне экалягічнага стану зямлі й вады. Але істотныя зьмены адбудуцца толькі з прыходам на зямлю сапраўднага гаспадара – фэрмара. Насельніцтва неабходна забясьпечваць экалягічна чыстай пітной вадой.

Паветра Беларусі атручваюць, у першую чаргу цяжкімі мэталамі, выкіды прадпрыемстваў. Выйсьце трэба шукаць у замене цяперашніх тэхналёгіяў на бязвыкідныя.

БНФ прапануе наступныя захады дзеля паправы экалягічнага стану Беларусі:

– стварэньне незалежнай ад вытворцаў сыстэмы экалягічнага кантролю, падсправаздачнай толькі Вярхоўнаму Савету;

– шырокае і апэратыўнае інфармаваньне насельніцтва пра ўсе аспэкты экалягічнай сытуацыі;

– узаконеньне экалягічных стандартаў, адпаведных міжнародным нормам;

– выкарыстаньне заканадаўчых і падатковых рычагоў, асабліва для заахвочваньня экалягічна прымальных тэхналёгіяў; экалягічны падатак павінны выплочвацца з прыбытку;

– увядзеньне платы за выкарыстаньне прыродных рэсурсаў;

– заснаваньне экалягічнага пазабюджэтнага фонду, які б выкарыстоўвалі мясцовыя самакіраваньні;

– барацьба з экалягічным невуцтвам;

– стварэньне экалягічных адзінак хуткага рэагаваньня, дзе магла б адбывацца альтэрнатыўная служба.

## 4.7. Сацыяльная абарона грамадзянаў

Да ліку найважнейшых мэтаў арыентаванай на чалавека сацыяльнай палітыкі належаць:

– абарона ад стратаў і галечы;

– сацыяльная дапамога перш за ўсё шматдзетным і няпоўным сем'ям;

– індывідуальная падрыхтоўка да магчымых жыцьцёвых цяжкасьцяў;

– стварэньне падставаў для паляпшэньня жыцьцёвых умоваў усяго насельніцтва.

Гучныя дэкляарацыі аб пасьпяховым вырашэньні сацыяльных праблемаў ва ўмовах "разьвітога сацыялізму" відавочна не адпавядаюць сапраўднасьці. Цяпер жа ў працэсе развалу гэтай сыстэмы сацыяльныя праблемы неабароненых групаў насельніцва ў грамадзтве яшчэ больш абвастрыліся. Працяг панаваньня посткамуністычнай намэнклятуры зь яе бессаромным імкненьнем да асабістага ўзбагачэньня прывёў гэтыя групы да мяжы выжываньня.

Таму перад маладой беларускай дэмакратыяй пасьля атрыманьня ўлады паўстане надзвычай важная і актуальная задача адраджэньня ў людзей веры ў сацыяльную справядлівасьць, у магчымасьць салідарнага існаваньня, калі прыстойныя чалавечыя ўмовы будуць забясьпечаны ня толькі энергічным і прадпрымальным людзям, але і хворым, і пэнсіянэрам, і шматдзетным сем'ям. І гэта будзе неабходна зрабіць ва ўмовах гаспадарчага крызысу. Таму трэба ясна і адназначна заявіць, што шматлікія сацыяльныя прывілеі здаровым і здольным працаваць, створаныя камуністычнаю сыстэмаю, будуць ліквідаваныя. Магчыма таксама, што прыйдзецца ўзьняць пэнсійны ўзрост з улікам цяжкасці і шкоднасьці ўмоваў працы для здароўя.

Таму, улічваючы складанасьць і сацыяльную вастрыню пытаньня сацыяльнай абароненасьці, неабходна вельмі дакладна вызначаць прынцыпы, якія былі б прынятыя і падтрыманыя нашым грамадзтвам.

Мы бачым істотную розьніцу паміж арганізаванымі і неарганізаванымі інтарэсамі, працаздольнымі і не занятымі ў вытворчай сфэры, паміж бальшынёй і тымі, хто ў меншасьці. Неарганізаваныя, старыя, шматдзетныя маці, інваліды, тыя, хто страціў працаздольнасьць – усе яны саступаюць арганізаваным аб'яднаньням у барацьбе за разьмеркаваньне валавага грамадзкага прадукту. Добра арганізаваныя прафсаюзы ня толькі эфэктыўна абараняюць свае інтарэсы, але таксама эфэктыўна адстойваюць іх перад іншымі групамі насельніцтва.

Дэмакратычная дзяржава рызыкуе арыентавацца выключна на арганізаваную большасьць. Аднак місія дзяржавы, як гаранта грамадзкага дабрабыту і сацыяльнага міру, на нашу думку, у тым, каб, стварыўшы ўмовы для ініцыятывы здаровых і моцных, абараняць слабых і тых, хто ў меншасьці, у іх імкненьні да рэалізацыі сваіх шанцаў.

Фізычныя й псыхічныя нагрузкі на працаўнікоў растуць, і расьце верагоднасьць няшчасных выпадкаў на працы і транспарце. Інваліды – гэта меншасьць, чые інтарэсы абавязалася абараняць дзяржава. Яна павінна даць усім інвалідам магчымасьць для раскрыцьця іх прафэсійных і духоўных здольнасьцяў. Мае быць пашырана сыстэма мэдычных мерапрыемстваў, актыўная дапамога ў рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў, стварэньне спэцыяльных школаў для інвалідаў любога ўзросту, будаўніцтва майстэрняў, інтэрнатаў і дамоў для інвалідаў, прыстасаваньне інфраструктуры дзеля патрэбаў інвалідаў. Неабходна стварыць у грамадзтве дух адзінства інвалідаў і неінвалідаў.

У духу павагі чалавечай годнасьці павінна будавацца сыстэма сацыяльнай дапамогі састарэлым. Нашае грамадзтва ня можа адмовіцца ад паслуг пэнсіянэраў, ад іхнага жыцьцёвага досьведу. Неабходна пераадолець дух адчужэньня паміж пакаленьнямі, спрыяць праяўленьню грамадзкай актыўнасьці людзей сталага веку і вызваленьня яе з-пад уплыву, а часам бескантрольнага панаваньня заідэялягазаванай меншасьці.

Захаваньне здароўя – клопат ня толькі асобы, але і ўсяго грамадзтва. Мы лічым, што шанцы быць ці стаць здаровым павінны быць аднолькавымі для ўсіх грамадзянаў. А гэта азначае, што пацыент мусіць мець свабоду выбару лекара і шпіталя незалежна ад яго статусу ў грамадзтве і месца пражываньня. З другога боку, лекар павінны мець свабоду зьдзяйсьненьня прафэсійных здольнасьцяў. У сыстэме аховы здароўя немагчыма абысьціся без элемэнту самакіраваньня. Побач зь дзяржаўным бясплатным лячэньнем і мэдычным абслугоўваньнем насельніцтва павінны зьявіцца і платныя прыватныя ці калектыўныя лякарні. Павінна разьвівацца страхавая мэдыцына, а агульныя выдаткі дзяржавы на сыстэму аховы здароўя, мэдыцынскую навуку і адукацыю павінны складаць пастаянны працэнт ад валавага нацыянальнага прыбытку на ўзроўні агульнапрынятай нормы.

Асаблівай увагі заслугоўвае праблема псыхічнага здароўя. Да сёньняшняга дня псыхічна хворыя людзі мелі менш увагі, а на прафэсію псыхіятра падаў злавесны цень карнай камуністычнай сыстэмы. У дэмакратычным грамадзтве гэтая сытуацыя ня можа існаваць. Трэба пераадолець адчужэньне грамадзтва да сыстэмы псыхіятрычнай дапамогі і стварыць для хранічна хворых лепшыя, чалавечыя ўмовы жыцьця.

Прафіляктыка і санітарная адукацыя павінны стаць найважнейшым клопатам дзяржаўнай сыстэмы аховы здароўя. Жыцьцё ва ўмовах свабоды патрабуе рызыкі. Установы сацыяльнага страхаваньня, як дзяржаўныя, так і прыватныя – неад'емны элемэнт сацыяльнай рынкавай гаспадаркі.

Але сыстэма сацыяльнага забесьпячэньня ня ёсьць дабрачыннаю арганізацыяй зь неабмежаванымі магчымасьцямі. Меркаваньні эканамічнай і сацыяльнай мэтазгоднасьці патрабуюць, каб:

– сацыяльная льготы распаўсюджваліся на тых, каму яны сапраўды патрэбныя;

– прэтэнзіі на сацыяльную дапамогу падмацоўваліся асабістым удзелам альбо самаабмежаваньнем на карысьць грамадзтва;

– сацыяльныя льготы рэалізоўваліся найбольш гуманным і рэнтоўным спосабам.

Лепш засьцерагчыся ад сацыяльнага зла, чым змагацца зь ім у будучыні. Таму зразумела, што лепш:

– дапамагчы сям'і ў выкананьні задач выхаваньня, чым фінансаваць дарагія мерапрыемствы ліквідацыі стратаў, якія могуць быць выкліканы асацыяльнымі паводзінамі;

– папярэдзіць няшчасныя выпадкі, чым змагацца зь іх вынікамі;

– захаваць здароўе, чым лячыць хваробы;

– запабягаць росту колькасьці бедных, чым падтрымліваць людзей, якія згубілі веру ў свае сілы і сацыяльную справядлівасьць.

# V. Дзяржаўны лад

Пасьля распаду камуністычнай імпэрыі і вяртаньня Беларусьсю дзяржаўнай незалежнасьці прайшло ўжо амаль два гады, але мы працягваем жыць у паўдзяржаве, якою была БССР. Дзейная Канстытуцыя не адпавядае рэальнасьці, агульнапрызнаным правам асобы і замацоўвае аджылую савецкую палітычную сыстэму.

Нашае імкненьне да стварэньня сувэрэннай дэмакратычнай дзяржавы можа рэалізавацца пасьля прыняцьця дэмакратычнага Асноўнага закону. Якасна новую, вольную ад спадчыны таталітарнага мысьленьня Канстытуцыю незалежнай Беларусі ня ў стане прыняць цяперашні намэнклятурны Вярхоўны Савет, выбраны ў камуністычнай БССР паводле старых канстытуцыйных нормаў. БНФ "Адраджэньне" выступае за прыняцьцё Канстытуцыі Беларусі адмысловым Усебеларускім Кангрэсам.

## 5.1. Канстытуцыйныя прынцыпы

Аўтарытэт дзяржавы вынікае зь яе імкненьня абараняць чалавечую годнасьць і неад'емныя правы грамадзянаў, якія стварылі гэтую дзяржаву і забясьпечваюць яе існаваньне.

Мы лічым, што Канстытуцыя Беларусі павінна адлюстроўваць наступныя палажэньні:

Беларусь ёсьць незалежная ўнітарная дзяржава.

Адзінай крыніцай улады ў Беларусі зьяўляецца народ, які ажыцьцяўляе ўладу непасрэдна (праз рэфэрэндум) або праз мандат даверу пэўнай палітычнай групе, атрыманы ў выніку своечасовых свабодных выбараў на падставе роўнага, простага выбарчага права.

Нашая мэта — стварэньне дэмакратычнай дзяржавы, якая імкнецца забясьпечыць актыўны ўдзел грамадзянаў у палітычным жыцьці, падмацоўваючы іх свабоду мэханізмам разьмеркаваньня і кантролю ўлады. Гэты мэханізм павінен быць празрысты і зразумелы кожнаму. Ён можа дзейнічаць эфэктыўна і супрацьстаяць незаконнай узурпацыі ўлады толькі тады, калі грамадзяне адчуваюць адказнасьць за яго фармаваньне, актыўна рэалізуюць яго магчымасьці і гатовыя да яго самаахвярнай абароны.

Толькі беларускі народ ёсьць сувэрэнам на сваёй зямлі. Дэмакратычная дзяржава здольная пасьпяхова выконваць свае функцыі, калі ўлада створана на падставе закону. Тады яна карыстаецца аўтарытэтам і валодае сілаю.

Мы за праўную дзяржаву, дзе закон для ўсіх органаў улады быў бы найвышэйшаю каштоўнасьцю, дзе свабодныя выбары надавалі б уладзе аўтарытэт, а аўтарытэт надаваў ураду сілу прымаць неабходныя рашэньні, падказаныя ўсьведамленьнем сваёй адказнасьці нягледзячы на зьменлівую грамадзкую думку. Такі ўрад можа забясьпечыць правядзеньне балючых, але неабходных эканамічных рэформаў, правесьці адміністрацыйную рэформу, скараціўшы грувасткі бюракратычны апарат, скараціць войска, абараніць інтарэсы меншасьці і несьці адказнасьць перад будучымі пакаленьнямі.

Мы прыхільнікі прадстаўнічай дэмакратыі, якая аб'ядноўвае права на палітычнае кіраўніцтва з дэмакратычнай адказнасьцю. Гэтая адказнасьць замацоўваецца сыстэмай выбараў, якая забясьпечвае пастаянную магчымасьць зьмены ўраду.

Прыватная свабода і аўтарытэт ды сіла дзяржавы не супярэчаць, а дапаўняюць адно аднаго. Дэмакратычная дзяржава, ня здольная абараніць сябе ад ворагаў, ставіць пад пагрозу свабоду і лёс сваіх грамадзянаў. Таму, рэфармуючы таталітарную сістэму, мы не павінны кідацца ў супрацьлеглы бок і разбураць дзяржаўныя органы, закліканыя змагацца з нападкамі на дзяржаўнасьць Беларусі і бясьпеку яе грамадзянаў.

Задача праўнай дзяржавы — забясьпечыць павагу асноўных правоў, прынцып падзелу галінаў улады, незалежнасьць судоў, легітымнасьць структураў кіраваньня. Не дзяржава, а чалавек ёсьць асноўным суб'ектам эканамічных дзеяньняў. Дзяржава бароніць права прыватнай уласнасьці і спрыяе эканамічнай актыўнасьці сваіх грамадзянаў. Усё гэта абараняе грамадзянаў ад свавольства бюракратыі і дыктатуры большасьці.

## 5.2 Структура ўлады й выбарчае права

Мы выступаем за разьдзяленьне і незалежнасьць заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады.

Найвышэйшы прадстаўнічы орган заканадаўчай улады — прафэсійны парлямант (Сойм). Колькасьць яго дэпутатаў мусіць быць абмежаваная 160 асобамі, якія будуць выбірацца паводле зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сыстэмы. Такая норма прадстаўніцтва, прынятая ў дэмакратычных краінах, адпавядае колькасьці насельніцтва Беларусі. Зьмешаная сыстэма выбараў, калі палова дэпутатаў абіраецца на падставе прапарцыйнага прынцыпу па партыйных сьпісах, а другая — пэрсанальна па выбарчых акругах, зразумелая грамадзянам, паколькі кожны выбаршчык, як і раней, будзе мець свайго прадстаўніка. Яна дазваляе пазьбегнуць нецывілізаваных формаў парляманцкай дзейнасьці, бо дэпутаты, абраныя па партыйных сьпісах, утвораць устойлівыя парляманцкія фракцыі. Гэта зробіць дзейнасьць парляманту арганізаванай і падвысіць палітычную адказнасьць дэпутатаў.

Пазьней, пасьля таго як у краіне сфармуецца паўнацэнная грамадзянская супольнасьць і дватры блёкі дэмакратычных партыяў, магчымы пераход да шматпартыйных выбараў паводле мажарытарнай сыстэмы, якая дазваляе стварыць стабільны ўрад пры надзейнай большасьці ў парляманце пэўнай палітычнай сілы.

Мы лічым, што цяпер, калі ўся ўлада зьверху данізу належыць былой камуністычнай намэнклятуры, якая імкнецца да таталітарных паўнамоцтваў, недапушчальна дазволіць гэтай намэнклятуры ашукаць людзей, дэмагагічна выкарыстаць увядзеньне пасады прэзыдэнта на Беларусі і ўстанавіць прэзыдэнцкую дыктатуру. Таму, пакуль не адбудуцца новыя выбары і ня будзе выбраны новы парлямант, які працуе на пастаяннай аснове, нельга дапусьціць увядзеньня прэзыдэнцкай сыстэмы на Беларусі.

Разам з тым мы не адмаўляем у прынцыпе прэзыдэнцкай рэспублікі і падтрымліваем такую яе сыстэму, якая ўраўнаважвае функцыі і прэрагатывы усіх галінаў улады. У такой збалянсаванай сыстэме ўрад не павінен залежаць толькі ад прэзыдэнта. Прэм'ер-міністар і праграма ягонага ўраду павінны разглядацца і зацьвярджацца парлямантам. Функцыі прэзыдэнта — зьнешняя і ўнутраная бясьпека Рэспублікі, права прапанаваць кандыдатуру прэм'ер-міністра і зацьвярджаць склад яго кабінэту, кантроль за дзейнасьцю Пракуратуры. Ён — старшыня Савету бясьпекі і галоўны ваявода беларускага войска. Яму належыць права і абавязак шукаць выйсьце з урадавага крызысу. Ён можа ў пэўных выпадках распусьціць парлямант і прызначыць датэрміновыя выбары. Але павінна быць распрацаваная і працэдура адкліканьня Прэзыдэнта з пасады ў выпадку парушэньня ім законаў дзяржавы альбо агульнапрызнаных маральных прынцыпаў.

Прэзыдэнт выступае як сымбаль незалежнасьці беларускае дзяржавы і як гарант непарушнасьці правоў яе грамадзянаў.

Мы выступаем за ўсебаковую праўную абарону эканамічных, палітычных і сацыяльных інтарэсаў людзей. Інструмэнтам для такой абароны зьяўляецца незалежны суд. На чале судовай сыстэмы павінен стаяць Вярхоўны Суд Рэспублікі, у паўнамоцтвы якога мае ўваходзіць і права вырашэньня канстытуцыйных спрэчак. Судзьдзі Вярхоўнага Суда абіраюцца парлямантам на тэрмін ня меншы, чым 10 гадоў, каб зьмена палітычнай улады не прыводзіла да адпаведнай замены ўлады судовай.

Мы прыхільнікі паступовага ўвядзеньня асобных судоў прысяглых. Гэта ня толькі шмат дзе прынятая форма выкананьня правасудзьдзя, але і чыньнік, які можа гарантаваць у часе пераходу ад таталітарызму да свабоднага грамадзтва сапраўдную незалежнасьць судовае сыстэмы. Пракурор і адвакат павінны стаць раўназначнымі бакамі ў судовым працэсе. Незалежнасьць адваката мае быць выразна пацьверджана законам. Побач са сьледчымі структурамі Міністэрства ўнутраных справаў і Пракуратуры патрэбная дзяржаўная ўстанова самастойных органаў дазнаньня з выразным падзелам функцыяў і абавязкаў.

БНФ уважае, што мясцовыя супольнасьці ёсьць асноваю ладу, парадку, еднасьці ў дзяржаве, падтрымлівае іхнае захаваньне, разьвіцьцё, інтэграцыю, самакіраваньне.

Мясцовае самакіраваньне аддзелена ад дзяржаўнай улады. Яно кіруе муніцыпальнаю ўласнасьцю, вызначае мясцовыя падаткі, ажыцьцяўляе ахову парадку, вырашае ўсе пытаньні мясцовага значэньня, якімі не займаюцца дзяржаўныя органы. Самакіраваньне дзейнічае незалежна й самастойна. Фронт падтрымлівае непасрэднае волевыяўленьне людзей ў пытаньнях мясцовага самакіраваньня.

Мясцовыя супольнасьці Беларусі — гарадзкія, павятовыя, сельскія — спрадвеку выпрацавалі самакіравальныя мэханізмы. Але за час панаваньня сыстэмы саветаў традыцыі самакіраваньня шмат у чым страчаныя. БНФ лічыць неабходным ажыцьцяўляць падрыхтоўку кадраў для мясцовых самакіраваньняў.

БНФ выступае за карэнную рэформу дзяржаўнага кіраваньня на мясцовым узроўні. Яе мэта — стварэньне дзейснай выканаўчай улады. Кіраўніка мясцовай выканаўчай улады (войта, у горадзе — бурмістра) выбірае насельніцтва адпаведнай тэрыторыі з прапанаваных урадам альтэрнатыўных кандыдатураў або прызначае Прэзыдэнт Беларусі (у выпадку ўвядзеньня пасады Прэзыдэнта — кіраўніка выканаўчай улады). Войт (бурмістар) нясе адказнасьць за выкананьне мерапрыемстваў, на якія выдаткаваны сродкі зь мясцовага і дзяржаўнага бюджэтаў, адпаведна перад прадстаўнічым органам мясцовага самакіраваньня (Соймікам, мясцоваю Радаю) і перад Соймам Беларусі.

Войт (бурмістар) фармуе выканаўчы орган мясцовай улады (управу) у межах вызначанага законам штату.

Мясцовыя Саветы стварыліся й дзейнічалі выключна як прыкрыцьцё ўлады камуністычнай партыі. Савецкая сыстэма засьведчыла сваю няздольнасьць ажыцьцяўляць мясцовае самакіраваньне. БНФ выступае за скасаваньне інстытуту мясцовых Саветаў і за стварэньне наноў сыстэмы мясцовага самакіраваньня.

У сваіх поглядах на мясцовае самакіраваньне БНФ пільнуецца палажэньняў Эўрапейскае хартыі мясцовага самакіраваньня.

Прадстаўнічы орган мясцовага самакіраваньня (Соймік або мясцовая Рада) выбіраецца насельніцтвам адпаведнай тэрыторыі ў складзе ад 5 (валасная Рада) да 15-17 (Рады вялікіх гарадоў) радцаў. Соймік (Рада) нясе адказнасьць за распрацоўку праграмаў разьвіцьця тэрыторыі, за фармаваньне мясцовага бюджэту дзеля іх фінансаваньня. Радцы, іх памочнікі й кансультанты, гэтаксама як войты й сябры ўправаў, працуюць на прафэсійнай аснове і ня могуць займаць іншых пасадаў.

Органы самакіраваньня вырашаюць іншыя мясцовыя пытаньні, не перададзеныя дзяржаўным органам.

БНФ лічыць галоўным пытаньнем рэформы (фактычна — стварэньня) сыстэмы мясцовага самакіраваньня новыя прынцыпы фармаваньня мясцовага бюджэту. Закон павінен дакладна вызначыць платы, якія ідуць у мясцовы бюджэт цалкам (значна большая за цяперашнюю плата за зямлю, падаткі на нерухомасьць, на транспарт, на гаспадарчую дзейнасьць фізычных асобаў, мыта на афармленьне спадчынных і дарчых актаў, экалягічны падатак, магчымыя мясцовыя падаткі) або часткова (частка падаходнага падатку). У мясцовы бюджэт павінна ісьці асноўная частка даходаў ад дзейнасьці прадпрыемстваў камунальнай уласнасьці, ад сумы атрыманых крэдытаў, ад мясцовых аўкцыёнаў, лятарэяў і г.д. Магчымыя і выраўноўчыя (кампэнсацыйныя) датацыі зь дзяржаўнага бюджэту.

БНФ выступае за спрашчэньне адміністрацыйнатэрытарыяльнага падзелу краіны, за скасаваньне вобласьцяў як лішняга бюракратычна-апаратнага зьвяна кіраваньня, за скарачэньне колькасьці раёнаў шляхам іх узбуйненьня і ператварэньня ў паветы, за ўзбуйненьне сельсаветаў і ператварэньне ў воласьці, за ўтварэньне старостваў.

Апрача эканоміі выдаткаў на ўтрыманьне апарату, гэтыя захады зьнішчаць базу існаваньня абласных і раённых кланаў камуністычнай намэнклятуры.

## 5.3 Дзяржава й грамадзянская супольнасьць

Прадстаўнічая дэмакратыя зьяўляецца эфэктыўнай у грамадзтве, якое мае пэўны ўзровень палітычнай культуры. Савецкая ўлада прадстаўляе дэзынтэграванае грамадзтва, і таму мы зьяўляемся сьведкамі безадказных паводзін дэпутатаў. Дэмакратыя ж патрабуе існаваньня абмежаванай колькасьці доўгатэрміновых палітычных праграмаў, якія фармулююць, прапагандуюць і рэалізуюць палітычныя партыі. Таму прадстаўнічая дэмакратыя — гэта шматпартыйная палітычная сыстэма.

Палітычныя партыі выконваюць сваё прызначэньне ва ўмовах плюралістычнага грамадзтва, калі яны маюць магчымасьць выкладаць свае погляды, змагацца за грамадзкую падтрымку і ствараць альтэрнатыву, пакідаючы народу ролю арбітра. Палітычныя партыі, якія стаяць ля ўлады ці знаходзяцца ў апазыцыі, павінны дзейнічаць адпаведна з аб'яўленымі імі праграмамі, а гэта азначае адпаведна з наказам сваіх выбаршчыкаў. Кантроль за дзейнасьцю ўраду ажыцьцяўляе перадусім апазыцыя.

Аднак палітычныя партыі могуць быць на вышыні свайго дэмакратычнага прызначэньня толькі ў тым выпадку, калі яны, нягледзячы на жорсткую канфрантацыю, здольныя да салідарнасьці ў пытаньнях абароны нацыянальнага сувэрэнітэту і дэмакратычнага ладу.

Кожны дэпутат валодае свабодным мандатам, які гарантуе яму незалежнасьць як ад шараговых сяброў партыі, так і ад яе кіраўніцтва. Задача дэпутата ў тым, каб у духу індывідуальнай адказнасьці калектыўна дзейнічаць дзеля агульнага дабра. Пра выкананьне гэтай задачы ён абавязаны інфармаваць і сваіх выбаршчыкаў, і сваю партыю. Калі мэханізм палітычнай дзейнасьці губляе сваю празрыстасьць і пачынаюць дзейнічаць ананімныя сілы, грамадзянская супольнасьць можа страціць кантроль за ўладаю.

Прадстаўнічая дэмакратыя прадугледжвае магчымасьць прыняцьця рашэньняў самім народам праз рэфэрэндум. Але пытаньні, якія могуць быць вынесены на рэферэндум, павінны рэгулявацца адпаведным законам.

Грамадзкія аб'яднаньні самастойна вызначаюць свае задачы ў межах дзейнага заканадаўства. Але ў дэмакратычнай дзяржаве ня могуць існаваць правы без абавязкаў, а свабода без адказнасьці. Задача дэмакратычнай дзяржавы — у тым, каб забясьпечыць сацыяльную адказнасьць усіх грамадзкіх сілаў.

Дзейснаю формаю грамадзкіх аб'яднаньняў зьяўляюцца зарэгістраваныя цэрквы й рэлігійныя супольніцтвы. Дзяржава мусіць падтрымваць дзейнасьць цэркваў, скіраваную на паляпшэньне сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньня, міласэрнасьці, гуманізацыі ўмоваў утрыманьня вязьняў.

БНФ зыходзіць з таго, што рэлігія аддзеленая ад дзяржавы, але яна ня можа быць аддзеленая ад грамадзтва, ад духоўнага адраджэньня Беларусі.

Рэспубліка Беларусь ёсьць і будзе сьвецкаю дзяржаваю, якая шануе духоўнае жыцьцё сваіх грамадзянаў. Рэлігійная палітыка беларускае дзяржавы павінна вынікаць з унікальнай веравызнаўчай сытуацыі на Беларусі.

У нас спрадвеку мірна й плённа ў грамадзкай еднасьці суіснуюць некалькі традыцыйных хрысьціянскіх вызнаньняў беларусаў, а таксама іудзейскае і мусульманскае вызнаньні нацыянальных меншасьцяў; значная частка народу Беларусі не належыць да пэўнай канфэсіі. Даўняя традыцыя суіснаваньня і талерантнасьць нашага народу дазваляюць Беларусі і надалей унікаць рэлігійных канфліктаў. Таму ўладам краіны недапушчальна аддаваць перавагу якой бы ні было канфэсіі, спрыяць стварэньню "дзяржаўнай царквы", уводзіць выкладаньне рэлігіі ў агульнаадукацыйных школах. Разам з тым натуральна, каб кожная з канфэсіяў, найперш тыя, чые кіраўнічыя асяродкі знаходзяцца па-за межамі Беларусі, выяўлялі лаяльнасьць да беларускае дзяржавы. Незалежная дэмакратычная дзяржава не пацерпіць антыдзяржаўнай і антыбеларускай дзейнасьці, іньсціраванай звонку пад выглядам канфэсійнае працы. Кожная з канфэсіяў павінна не перашкаджаць, а спрыяць ўмацаваньню дзяржаўнасьці Беларусі з усімі яе атрыбутамі, у тым ліку зь дзяржаўнаю моваю. Дзяржава ж павінна падтрымаць тыя канфэсіі, што ўсьведамляюць як пастырскі абавязак служэньне беларускаму народу на ягонай мове.

Фронт роўна падтрымлівае ўсе традыцыйныя канфэсіі Беларусі.

Павінна быць заканадаўча замацаванае пацьверджаньне намінацыі духоўных асобаў на найвышэйшыя духоўныя пасады ў краіне Вярхоўным Саветам або падначаленымі яму ўладнымі структурамі.

БНФ "Адраджэньне", кіруючыся прынцыпам справядлівасьці, цьвёрда настойвае на вяртаньні сьвятыняў, забраных камуністычным рэжымам, тым канфэсіям, якім яны першапачаткова належалі.

БНФ лічыць мэтазгодным і натуральным максымальнае падвышэньне статусу беларускіх тэрытарыяльных аддзелаў канфэсіяў, падтрымлівае імкненьні да аўтакефаліі.

Цьвёрдая дзяржаўная палітыка ў галіне вызнаньняў будзе гарантыяй недапушчэньня на Беларусі рэлігійных канфліктаў.

Свабоднаму грамадзтву адпавядае прынцып плюралізму сродкаў масавай інфармацыі. Заканадаўства аб свабодзе друку павінна гарантаваць журналістам і ўсім грамадзянам бесьперашкодны доступ да інфармацыі і поўную магчымасьць выказваць свае погляды і перакананьні. Пасьля дэманапалізацыі сродкаў інфармацыі ўрад ня зможа выкарыстоўваць прэсу як інструмэнт для прапаганды ягонай палітыкі, ён будзе заснавальнікам адзінага пэрыядычнага выданьня — інфармацыйнага бюлетэню. Неабходна захаваць для пэрыядычных выданьняў на пачатковы пэрыяд магчымасьць скарыстаць зь дзяржаўнай датацыі. Інфармацыйная палітыка БНФ будзе спрыяць узьнікненьню й разьвіцьцю незалежных беларускіх тэле- і радыёкампаніяў, пэрыядычных выданьняў, інфармацыйных агенцтваў, тым самым пашыраючы й паглыбляючы інфармацыйную прастору, заахвочваючы канкурэнцыю і падвышаючы якасьць СМІ. Беларускае тэлебачаньне і радыё, хаця застаюцца дзяржаўнымі, забясьпечваюць свабоду выказваньня розных поглядаў. Будзе выпраўлена ненармальнае становішча, калі грамадзянам Беларусі фактычна манапольна навязваецца маскоўская трактоўка падзеяў у сьвеце. Наша краіна далучыцца да сусьветнай інфармацыйнай прасторы.

БНФ "Адраджэньне" выступае за няўхільнае выкананьне дзяржаўнымі й прыватнымі сродкамі інфармацыі Закону аб мовах, дамагаецца заканадаўчае падтрымкі беларускамоўных выданьняў. Дзяржаўна-нацыянальны прыярытэт для беларускамоўных сродкаў інфармацыі забясьпечваецца падаткаваю палітыкай.

БНФ супраць цэнзуры. Але Фронт выказваецца за комплекс вызначаных заканадаўствам мераў,

якія б баранілі дзяцей і падлеткаў ад праяваў маральнай разбэшчанасьці. Закон таксама павінен стаць заслонай на шляху антыдзяржаўнай, антыканстытуцыйнай прапаганды.

### 5.4 Права і парадак

БНФ выступае за парадак у грамадзтве як гарантыю магчымасьці самарэалізацыі асобы грамадзка прынятым шляхам.

Абарона правоў грамадзянаў, абарона ўласнасьці – найважнейшы абавязак дзяржавы. Калі ня будзе спынены рост злачыннасьці, калі ня будуць пакараныя карупцыянэры, – пацерпяць няўдачу і эканамічныя пераўтварэньні, і нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва незалежнай Беларусі. БНФ выступае за моцную дзяржаву Беларусь.

Рост злачыннасьці й карупцыі абумоўлены ў першую чаргу адкрытым зрашчэньнем кіраўнічай камуністычнай намэнклятуры зь верхавінаю злачыннага сьвету і ўтварэньнем арганізаванай злачыннасьці (мафіі). Для "адмываньня" грошай служаць фірмы з крымінальным і кампартыйна-камсамольскім капіталам, актыўна выкарыстоўваецца магчымасьць выдаваць "сваім" людзям ліцэнзіі на вываз тых ці іншых тавараў за мяжу. Асобныя сумленныя прадстаўнікі праваахоўных органаў ня ў стане процістаяць хвалі арганізаванай злачыннасьці. Таму радыкальнай папраўкі сытуацыі са злачыннасьцю ня будзе, пакуль захоўваецца цяперашні крымінальна-намэнклятурны рэжым.

Рост злачыннасьці ў значнай ступені выкліканы яе ўвозам з-за межаў краіны. БНФ выступае за ўвядзеньне візавага рэжыму ўезду ў Беларусь.

Перамога права над бяспраўем магчымая тады, калі ўсё грамадзтва і кожная мясцовая супольнасьць будзе ўсведамляць неабходнасьць барацьбы са злачыннасьцю як умову вяртаньня да цывілізацыі. БНФ – за моцную і аўтарытэтную беларускую міліцыю (паліцыю), за ўдасканаленьне заканадаўчай базы яе дзейнасьці, за максымальна магчымую крымінальную адказнасьць за замах на міліцыянта (паліцыянта). Міліцыі (паліцыі) патрэбная і маральная падтрымка грамадзтва, і матэрыяльная падтрымка дзяржавы.

БНФ выступае за арганізацыю, поруч зь дзяржаўнаю міліцыяй (паліцыяй), муніцыпальнае міліцыі (паліцыі), за стварэньне й дзяржаўную падтрымку добрахвотных аддзелаў дапамогі міліцыі (паліцыі) па месцы жыхарства.

БНФ падтрымлівае стварэньне пазабюджэтных фондаў для забесьпячэньня дзейнасьці органаў унутраных справаў, пракуратуры й судоў, службы бясьпекі.

БНФ ухваляе намаганьні сумленных працаўнікоў судоў і пракуратуры адстойваць права ў бяспраўнай краіне, выступае ня толькі за юрыдычную, але і за фактычную незалежнасьць судаўніцтва і пракуратуры.

КДБ нясе цяжкую спадчыну таталітарнага рэжыму. БНФ выступае за рэарганізацыю КДБ ў службу бясьпекі, за яе незалежнасьць ад ураду, за ачышчэньне ад непрафэсіяналаў і ад асобаў, якія заплямілі сябе рэпрэсіямі супраць іншадумцаў.

Раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці на карысьць посткамуністычных структураў дасягнула беспрэцэдэнтных памераў. БНФ лічыць, што кожны чыноўнік і прадпрымальнік абавязаныя будуць падаць дзяржаўным кантрольным органам дэкларацыі пра даходы і доказы законнага паходжаньня капіталу.

## VI. Беларусь у сьвеце

### 6.1 Прынцыпы зьнешняй палітыкі

Беларусь адраджаецца як незалежная вольная краіна пасьля вялікага перапынку. Для многіх народаў сьвету мы – новая, маладая дзяржава. У такой сытуацыі здавалася б дастатковым заявіць аб нашым прызнаньні агульных прынцыпаў узаемавыгадных добрасуседзкіх дачыненьняў з усімі краінамі і пачынаць будаваць стасункі зь імі ад самага пачатку.

Мы, безумоўна, выступаем за паўсюднае ажыцьцяўленьне правоў асобы, за міжнародна прызнанае права нацыянальных меншасьцяў на родную мову і культуру.

Воля да міру ва ўмовах свабоды і да ўзаемаразуменьня паміж народамі – аснова зьнешняй палітыкі Беларусі. Мы адмаўляем сілу ці пагрозу сілай як сродак палітыкі. Мы падтрымліваем працэс раззбраеньня й разьвіцьця супрацоўніцтва ў Эўропе, мы салідарызуемся з намаганьнямі міжнародных арганізацыяў дзеля лякалізацыі й мірнага вырашэньня спрэчных пытаньняў.

Аднак і праблемы, пакінутыя нам гісторыяй, нельга ігнараваць. Беларускі народ, які яшчэ ў 1918 годзе вярнуў сабе дзяржаўную незалежнасьць і заявіў пра сваё права на самастойнае незалежнае існаваньне, больш як 70 гадоў сілаю быў пазбаўлены гэтага права. Ягоная тэрыторыя ў 1921 г. была падзеленая паміж Польшчаю і Расеяй. Прадстаўнікі БССР ня бралі ўдзелу ў падпісаньні Рыскае дамовы. У выніку супрацьпраўнага падзелу велізарныя этнічныя тэрыторыі ўсходняе Беларусі былі ўключаныя ў склад РСФСР, а заходнія – у склад Польшчы. У 1939 г. дыктатарскі сталінскі рэжым аддаў Вільню й Віленскі край, заселеныя беларусамі, Літоўскай рэспубліцы дзеля рэалізацыі злачыннага пакту Рыбэнтропа-Молатава, які быў асуджаны міжнароднай супольнасьцю і прызнаны нядзейсным з моманту падпісаньня.

Беларусь – адзіная краіна-пераможца, якая ў выніку Другой сусьветнай вайны згубіла сваю этнічную тэрыторыю ў выніку перадачы горада Беластока й Беласточчыны ў склад Польскай Рэспублікі. Беларуская этнічная Смаленшчына, Браншчына, Паўночная Віцебшчына з гарадамі Невелем і Себежам засталіся ў складзе РСФСР.

Аднак сёньня, будуючы вольную, незалежную Беларусь, мы выконваем падпісаныя БССР Хельсінскія пагадненьні аб нязьменнасьці пасьляваенных межаў у Эўропе. Шлях невырашальных спрэчак, шлях узаемных тэрытарыяльных прэтэнзіяў ня ёсьць шлях канструктыўны. Міжнародны клімат у Эўропе мяняецца, і вырашэньне спрэчных пытаньняў ляжыць хутчэй на шляху двухбаковых пагадненьняў, узмацненьня эканамічных, палітычных і культурных сувязяў з нашымі суседзямі. Мы за двухбаковыя пагадненьні з суседнімі краінамі, дзе ёсьць беларуская нацыянальная меншасьць, за ўсталяваньне максымальна спрыяльных умоваў для гуманітарных кантактаў, за ўзаемную падтрымку імкненьня захаваць этнічна-культурную тоеснасьць нацыянальных меншасьцяў, за іх нацыянальна-культурную аўтаномію.

### 6.2 Геапалітычныя прыярытэты

На працягу стагодзьдзяў зямля нашых продкаў была непераадольнаю сьцяною для агрэсіі, скіраванай з Усходу на Захад ці з Захаду на Ўсход. Гэтая роля абарончага валу была абумоўленая яе геапалітычным разьмяшчэньнем у раёне, дзе сутыкаюцца розныя этнічна-культурныя арэалы, розныя цывілізацыі, розныя погляды на чалавека і сьвет.

Месца на геапалітычнай мапе вымагае ад Беларусі ня толькі падтрыманьня добразычлівых узаемавыгадных стасункаў з суседнімі краінамі, але і пэўнай устойлівай міжнароднай пазыцыі, заснаванай на прынцыпах нэўтралітэту і недалучэньня да існых ці маючых стварыцца вайсковых саюзаў.

Мы разумеем, што пазыцыя нэўтралітэту яшчэ не гарантуе бясьпекі, будзем дамагацца міжнароднага прызнаньня нэўтральнага і бязьядзернага статусу Беларусі, пра які яна заявіла ў Дэклярацыі незалежнасьці. Мы будзем імкнуцца да найхутчэйшага вываду з тэрыторыі Беларусі расейскіх войскаў і ліквідацыі ўсіх замежных вайсковых базаў.

Узброены нэўтралітэт не выключае эканамічных ці палітычных саюзаў. Беларусь – сябра-заснавальнік Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, яна ўваходзіць у многія іншыя міжнародныя арганізацыі. Яна прытрымлівалася і будзе прытрымлівацца прынятых на сябе абавязкаў, што вынікаюць з удзелу ў міжнародным супольніцтве. Але наша міжнародная палітыка павінна зыходзіць зь інтарэсаў Беларусі і абумоўлівацца дабром яе народу.

Мы лічым, што дзяржавы Ўсходняй Эўропы, разьмешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі, маюць аднолькавыя інтарэсы на Захадзе і аднолькавыя праблемы з Усходам. Гэта краіны блізкай, а такія, як Беларусь, Летува, Украіна – і сумеснай гісторыі. Яны знаходзяцца ў адным поясе эўрапейскай культуры, маюць блізкія эканамічныя інтарэсы. Мы бачым увасабленьне гэтай салідарнасьці ў Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці дзяржаваў (БЧС), што дазволіла б умацаваць і гарантаваць сувэрэнітэт кожнай зь іх праз каардынацыю эканамічных, гандлёвых, мытных сувязяў паміж сабой і дачыненьняў з Усходам і Захадам. Гэта спрыяла б стабільнасьці дэмакратыі на ўсходзе Эўропы і дэмакратычным працэсам у Расеі.

Зразумела, што БЧС – гэта яшчэ толькі палітычная ідэя, рэалізацыя якой будзе залежаць як ад разьвіцьця падзеяў у кожнай з гэтых краінаў, так і ад агульнапалітычнай сытуацыі ў сьвеце. Разам з тым імкненьне да каардынацыі на шырокім грунце супадзеньня інтарэсаў зьяўляецца праявою ў нашым рэгіёне Эўропы агульнай плыні эўрапейскай палітыкі – інтэграцыі дзеля прагрэсу, міру і свабоды пры захаваньні нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў. Мы – за "Эўропу Айчынаў".

Прызнаньне блізкасьці дзяржаўных інтарэсаў з нашымі суседзямі па лініі поўнач-поўдзень натуральна ставіць пытаньне аб стасунках з нашымі заходнім і ўсходнім суседзямі. Рэальнасьцю зьяўляецца тое, што польская гаспадарка хутчэй інтэгруецца ў сусьветную эканоміку, і гэта будзе спрыяць ажыўленым кантактам з нашым заходнім суседам.

Агромністая шматнацыянальная Расея – наш усходні сусед і наша галоўная зьнешнепалітычная праблема. Дзьвесьце год унутрыпалітычныя праблемы расейскай імпэрыі істотна ўплывалі на зьнешнепалітычныя праблемы Еўропы. Непазьбежны працэс дэзынтэграцыі імпэрскіх структураў і замяшчэньне іх нацыянальнымі дзяржаўнымі утварэньнямі на ўсходзе яшчэ далёкі ад завяршэньня. Таму сытуацыя тут амаль супрацьлеглая сытуацыі ў Польшчы. Беларусь мае шанц апярэдзіць у сацыяльна-палітычным развіцьці свайго вялікага ўсходняга суседа, але пры безумоўнай абароне свайго сувэрэнітэту і сваіх інтарэсаў, улічваючы, натуральна, і зацікаўленасьць Расеі ў пранікальнасьці яе заходніх межаў для культурна-гаспадарчых кантактаў.

БНФ – за ўзаемавыгадныя дачыненьні з Расеяй праз цывілізаваную дзяржаўную мяжу. Беларускі Народны Фронт лічыць Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў (СНД) часовым, пераходным, хоць на пэўным этапе і неабходным міждзяржаўным утварэньнем, якое сябе ўжо фактычна вычарпала. Рэфармуючы сваю эканамічную і палітычную структуру, Рэспубліка Беларусь павінна рыхтавацца да выхаду з СНД, умацоўваючы адначасна двухбаковыя эканамічныя і культурныя дачыненьні з суседзямі.

Палітыка Беларусі павінна весьці да няўхільнага зьменшэньня яе палітычнае, вайсковае, эканамічнае залежнасьці ад Расеі. Неабходна разьвіваць супрацоўніцтва з рэспублікамі і рэгіёнамі Расейскай Фэдэрацыі, але разам з тым распачаць пераарыентацыю сыравінаёмістай гаспадаркі Беларусі на іншых пастаўшчыкоў сыравіны, вызначаць будучыя рынкі збыту нашай прадукцыі ў розных рэгіёнах сьвету.

Наступнае кола геапалітычных інтарэсаў Беларусі – гэта краіны Цэнтральнай і Заходняй Эўропы – Нямеччына, Аўстрыя, Італія, у пэрспэктыве Францыя. Улічваючы шматвяковую праблему германа-славянскіх дачыненьняў, якія заўсёды спалучалі прыцягненьне і адштурхоўваньне, улічва-ючы наяўнасьць у Нямеччыны спэцыфічных усходніх інтарэсаў, мы лічым, што менавіта гэтая краіна – адзін зь лідараў сучаснага дэмакратычнага сьвету – павінна быць у цэнтры ўвагі нашай замежнай палітыкі.

Эўрапейская палітыка – бясспрэчны прыярытэт для маладой беларускай дзяржавы, паколькі асноўныя каштоўнасьці, якія натхняюць наш народ на правядзеньне гістарычных пераўтварэньняў, – свабода, справядлівасьць, салідарнасьць, мадэль нацыянальнай дзяржавы, – сфармаваліся на духоўнай і палітычнай глебе эўрапейскага кантынэнту.

### 6.3. Палітыка дзяржаўнай бясьпекі. Войска

Стрыжань нашае нацыянальнае палітыкі бясьпекі – няўхільнае імкненьне захаваць мір, абараніць правы й свабоду нашага народу. Для гэтага патрабуецца сьвядомая воля да абароны сувэрэнітэту, актыўныя абарончыя намаганьні і энэргічная міжнародная палітыка.

Бясьпека непадзельная: зьнешняя і ўнутраная, ваенная і палітычная, эканамічная і сацыяльная – усе яны ўзаемазьвязаныя і дапаўняюць адна адну.

Вайсковае пытаньне – найвастрэйшая палітычная і сацыяльная праблема Беларусі.

Абарона нашай краіны ад зьнешняй пагрозы – справа ўсяго народу. Яна вымагае ад грамадзянаў гатоўнасьці ахвяравацца ў імя нашай свабоднай дзяржаўнасьці. Вайсковая рэформа на Беларусі павінна адбывацца ў інтарэсах усяго народу, у інтарэсах вайскоўцаў, гатовых сумленна і высокапрафэсійна служыць дзеля дабра Беларусі як яе грамадзяне. Нашая дзяржава й народ маюць права быць абароненымі, а нашыя вайскоўцы абавязаны бараніць Беларусь, але ня гінуць у вогнішчы чужых канфліктаў.

Цяперашнія Ўзброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь не зьяўляюцца ў поўнай меры беларускім войскам. Праводзіцца мэтанакіраваная палітыка, якая абвастрае праблемы войска й служыць інтарэсам суседняй дзяржавы. Беларусь утрымлівае на сваёй тэрыторыі вялікае войска Расеі, нясе цяжкі груз яго забесьпячэньня.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" выступае за неадкладны і поўны вывад чужога войска зь Беларусі, а надалей – за недапушчэньне іншаземных войскаў на нашую зямлю. Мы выступаем за хутчэйшае стварэньне сапраўды беларускай арміі, нацыянальнай як па складзе, так і па перакананьнях. Мы за хутчэйшае вяртаньне на радзіму беларускіх афіцэраў, якія ў выніку хуткага развалу СССР апынуліся за межамі Беларусі. Для іх павінны быць у першую чаргу створаны прымальныя сацыяльна-бытавыя ўмовы і дадзена магчымасьць заняцьця службовых пасадаў альбо пэрспэктыўнай перакваліфікацыі. Мы лічым немагчымым існаваньне ў нацыянальным войску такой колькасьці афіцэраў-наёмнікаў, якая існуе сёньня. Пры будаўніцтве беларускага войска і вырашэньні кадравых пытаньняў неабходна зыходзіць з крытэрыю лаяльнасьці афіцэра ці генэрала да Беларусі, беларускіх традыцыяў, мовы й культуры.

Пакуль не адбыўся пераход на прафэсійную (кантрактную) вайсковую службу, маладому пакаленьню трэба зь юначых гадоў прышчапляць разуменьне вайсковага абавязку як асноўнага дэмакратычнага абавязку. Мы паважаем права на адмову ад вайсковай службы, калі гэта сапраўды вымагаецца рэлігійна-этычнымі перакананьнямі. У гэтым выпадку малады чалавек абавязаны несьці грамадзянскую службу. Правам выбару нельга злоўжываць, паколькі гэта пагражае істотным інтарэсам грамадзтва. Цяжкасьці абароны неабходна несьці калектыўна, а разьмяркоўваць – па справядлівасьці.

Непамерная колькасьць войска ў нашай краіне і мілітарызаванасьць яе эканомікі – плён эпохі таталітарызму. Скарачэньне войска, адстаўка вайсковай намэнклятуры, якая выступае з антыбеларускіх пазыцыяў, узбуджэньне крымінальных справаў супраць вайсковых карупцыянэраў – неабходная ўмова аздараўленьня Ўзброеных Сілаў Беларусі ды іх пераўтварэньня ў Беларускае Войска.

Нават у цяжкі час дзяржава павінна забясьпечыць неабходныя выдаткі на падтрыманьне баяздольнасьці беларускага войска. Аднак у пэрспэктыве колькасьць войска мусіць адпавядаць агульнапрынятым нормам – 0,8-1,0% ад колькасьці насельніцтва. Неабходная і структурная перабудова войска, якое захоўвае рысы ўдарнай групоўкі бальшавіцкай імпэрыі "на заходнім тэатры вайсковых дзеяньняў". Абарончая вайсковая дактрына нашай краіны вынікае з прынцыпаў зьнешняй палітыкі Беларусі і забараняе ўдзел беларускага войска ў апэрацыях за межамі краіны, апрача міратворчых сілаў ААН. Беларускае войска павінна стаць гарантам нашай палітыкі нэўтралітэту.

## VII. Заключэньне

Выкладзеныя прынцыпы палітыкі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" ў сваёй сукупнасьці могуць быць рэалізаваныя толькі ў выпадку заваёвы палічнай улады партыямі і рухамі блёку "Рэферэндум". У галоўных рысах яны не супярэчаць думкам і падыходам, адлюстраваным у Праграмах Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай сялянскай партыі, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, сацыяльным канцэпцыям Свабодных прафсаюзаў Беларусі, іншых партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў нашай краіны. Мы спадзяемся на тое, што праграма БНФ задаволіць патрабаваньні дэмакратычных арганізацыяў нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

Разам з тым мы спадзяемся, што нашая Праграма патэнцыяльна здольная аб'яднаць вакол задачы яе рэалізацыі ўвесь беларускі народ, які прачынаецца ад летаргічнага сну таталітарнага рэжыму.

НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Заснавальнік Зянон Пазьняк

Галоўны рэдактар Зьдзіслаў Сіцько

Індэкс 63895
Ліцэнзія №67

Падпісана да друку 18 траўня 1993 г.
Наклад 10 000 ас.
Надрукавана ў Магілеўскай абласной друкарні

Адрас рэдакцыі: г.Менск, Рабкораўскі зав., 14. "Навіны БНФ"